# Хто супраць Масквы

«Хто ня з намі, той супраць нас!» — такім прынцыпам паслугоўваецца Масква на н'ве міжнароднага суіснаваньня. Таму, калі пэўныя быўшыя калёніі Масквы загаварылі, прытым базуючыся на толькі што абвешчаных прынцыпах самою Масквою аб сяброўскім суіснаваньні народаў, прыклад Югаславіі, і больш людзкім сацыялізьме, прыклад. Польшчы дык Масква зараз-жа назвала гэтыя імкненьні народаў антынароднымі, апартуністычнымі, больш удасканаленым буржуазным нацыяналізмам. Гэта сталася таму, што гэтыя народы адмаўляюцца сьлепа паслугоўвацца дасьветчаньнем пабудовы «сацыялізму» ў самым Савецкім Саюзе, адмаўляюцца прызнаць аднабаковае зьверхніцтва Масквы. Падобны рух за самавызначэньне ў Вугоршчыне быў названы фашыстоўскім рухам і зьнішчаны пры дапамозе танкаў.

У чым-жа тады справа, бо і ў Савецкім Саюзе стала модным паляваньне на «буржуазных нацыяналістых». Як відаць, уся праблема гэтых супярэчнасьцяў заключаецца ў самой прыродзе савецкага сацыялізму.

Няма патрэбы даказваць, што так званы савецкі сацыялізм ёсьць чыстаи фікцыяй. З сацыяльнага пункту гледжаньня ён пабудаваны на прынцыпах бязьлітаснае эксплятацыі рабочае сілы і адмаўленьня людзкіх вартасьцяў, і з нацыянальнага — на чужой для народаў расейскай культуры. Апошні прынцып быў прызнаны афіцыйна і палягаў на прымусовым будаўніцтве савецкае культуры на асновах расейскае культуры. Гэта, як ведама, пацягнула за сабой нячувалае ў гісторыі адмаўленьне і вынішчэньне культурных здабыткаў нерасейскіх народаў і прымусовае прышчапленьне ім-жа «перадавое» расейскае культуры. Падобная «асацыялізацыя» праводзілася ў цынічны спосаб, прымушаючы нерасейскія народы аплёўваць собскія нацыянальныя вартасьці і сваю гісторыю. Бязумоўна, у такіх абставінах не маглі зрадзіцца ні сацыяльная салідарнасьць між народамі, ні салідарнасьць нацыянальная. Наадварот, гэты савецкі парадокс заўсёды перахоўваў, і навет узбуджаў заўсёдныя сацыяльныя й нацыянальныя супярэчнасьці. Таму, з аслабленьнем савецкага таталітарнага рэжыму і ў выніку часовае «дэмакратызацыі» з усеагульным патрабаваньнем мінімуму сацыяльнага забясьпячэньня й свабоды дзеяньня пракацілася таксама хваля патрабаваньняў нацыянальнае пашаны. Апошнія патрабаваньні выразіліся перадусім у дамаганьнях пашаны да культурных вартасьцяў бяз вынятку ўсіх народаў, ачышчэньня зрусыфікаванае нацыянальнае гісторыі і моваў, рэгабілітацыі нацыянальных герояў, пісьменьнікаў і нацыянальна-культурных арганізацыяў, раней абазваных і зьнішчаных як буржуазна-нацыяналістычныя. Пра гэта нам апавяшчаюць радкі савецкае рэспубліканскае прэсы ды дыскусійныя канфэрэнцыі гісторыкаў і літаратараў. Прыкладам, вельмі характэрнымі і вымоўнымі ў гэтым сэньсе могуць служыць дамаганьні гісторыкаў на Кіеўскай і Махачкал-Маскоўскай канфэрэнцыях, дзе галоўнай праблемай была праблема праўдзівага насьвятленьня гісторыі паасобных народаў. Праўда, тут нацыянальныя гісторыкі сутыкаліся з рэакцыйнымі заяўленьнямі бальшыні расейскіх гісторыкаў, аднак гэта не зьмяняе сутнасьці высунутых дамаганьняў. Ды возьмем хоць-бы нацыянальныя дамаганьні што адлюстраваліся на бачынах менскае газэзы «Літаратура і Мастацтва». Патрабаваньні стварэньня нацыянальнага гістарычнага музэю, аховы нацыянальных гістарычных помнікаў, зьвяртаньне асаблівае ўвагі на значэньне і захаваньне астаткаў старажытнага Полацку, на значэньне для беларускага народу гісторыі Полацкага княства, беларускае культуры 15-16 стагодзьдзяў, дамаганьні адпаведнае пашаны да нашаніўскае пары і пары беларускага нацыянальна-культурнага ўздыму 20-ых гадоў і г. д. гавораць ведама аб набалелых пытаньнях нацыянальнага захаваньня. Хваля такіх дамаганьняў, сказаць-бы нацыянальнага адраджэньня, пракацілася па ўсіх нацыянальных рэспубліках, праяўляючыся ў вайстрэйшай ці больш лагоднай форме ў залежнасьці ад нязьнішчанага нацыянальнага патэнцыялу таго ці іншага народу.

Рэакцыі Масквы на гэта ня прыйшлося чакаць доўга. хоць яна і аб'явіла на XX зьезьдзе КПСС прынцыпы пашаны нацыянальнае культуры і асаблівасьцяў. Прынцып «хто ня з намі, той супраць нас» ці вымаганьне ад народаў іхняга сьляпога падпарадкаваньня Маскве пачаў праяўляцца зноў з новай сілай. На пачатках бачынкі рэспубліканскае прэсы запаўняюцца што раз больш часьцейшымі «зачараваньнямі» «народнымі» («сацыялістычнымі») героямі, як Надзеждай Дуравай, «народнай» традыцыяй, а ў прыватнасьці расейскай, музыкі і мастацтва, расейскай культуры — падводжаньне асноваў пад «сацыялістычную» культуру. Пазьней прынцып «хто супраць нас», а ў маскоўскім зразуменьні «той будзе зьнішчаны», прыводзіць да новага наклейваньня ярлычкоў «буржуазнага нацыяналізму» ды паходу супраць усякага праяўленьня нацыянальных асьпірацыяў. Аднак гэта яшчэ раз даказвае аб няўміручасьці нанацыянальных імкненьняў народаў, падбітых Масквою, аб фікцыі «савецкага», ужо «сацыялістычнага» грамадзтва, аб антынародным характару савецкага сацыялізму, як такога.

**П. Залужны**

# Сіла беларускай нацыянальнай ідэі

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

кага нацыянальнага адраджэньня — нашаніўская пара. Пачынаецца запраўдны беларускі рэнэсанс. Нашаніўства кладзе моцныя й трывалкія асновы беларускага адраджэнскага руху, высоўваючы два прынцыповыя патрабаваньні для беларускага народу: **права звацца людзьмі і права звацца народам, быць паўнавартаснай і роўнай нацыяй у сям'і іншых народаў.**

Беларускі народ, у бальшыні сваей яшчэ нацыянальна несьвядомы і амаль поўнасьцю нацыянальна пасыўны, у пэрыяд нашаніўскага адраджэнства выдаў зь сябе рад выдатных нацыянальных змагароў, якія ўсяцэла пасьвяцілі сябе справе нацыянальнага адраджэньня. Гэтыя людзі мелі глыбокую веру ў будучую перамогу свае ідэі, мелі шырокі палітычны кругазор і добра разумелі, як весьці нацыянальную справу. Аб іхнай нацыянальнай дасьпеласьці й палітычнай далёказоркасьці хай пасьветчыць хоць-бы той факт, што яны зразумелі вялізарную шкоду забыцьця народам ягонае слаўнае мінуўшчыні. Таму нашаніўскія паэты, а ў першую чаргу Янка Купала, стараліся ў сваіх творах адтварыць абразы мінулай славы й магутнасьці беларускага народу, каб гэтым узбудзіць у ім пачуцьцё сваей нацыянальнай годнасьці і ўзмоцніць веру ў будучыню.

Нашаніўскі рух яшчэ ня быў рухам масавым. У вельмі малой меры быў ён рухам палітычным. Гэта быў галоўным чынам рух культурны й нацыянальна-ўсьведамляльны. Але гістарычнае значэньне нашаніўства эпахіяльнае. Яно палажыла трывалкія асновы для ўсяго далейшага нацыянальнага руху й прыгатавала грунт для руху палітычнага.

✳

І так у вапошняй фазе Першае сьветавае вайны й беспасярэдна пасьля яе заканчэньня **беларускі нацыянальна-адраджэнскі рух пераходзіць у рух нацыянальна-вызвольны ды з руху адзінак і паасобных групаў становіцца ўжо масавым рухам.** Гэты рух прыводзіць да склікаsucc ньня ў канцы 1917 году Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, які на праўных дэмакратычных асновах выказаў волю беларускага народу да вольнага й незалежнага жыцьця, і да абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі векапомным Актам 25 Сакавіка 1918 году, 39-ую гадавіну якога й адзначаем сяньня. Беларускі народ цяпер упяршыню актыўна выяўляе сваю нацыянальную сілу й палітычную дасьпеласьць, бо ўсьлед за абвешчаньнем сваёй дзяржаўнасьці ахвярна падняўся на змаганьне за яе ажыцьцяўленьне й замацаваньне. Дзяржаўныя ворганы незалежнай Беларусі знайшлі поўнае вызнаньне й падтрыманьне ў народзе, які выступіў з аружжам у руках у вабароне сваёй маладой рэспублікі, завяршаючы шматлікія збройныя акты за незалежнасьць Бацькаўшчыны слаўным Слуцкім паўстаньнем.

Калі-ж Беларусь была пераможаная перавагаю фізычнае сілы ворага і падзеленая няслаўным Рыскім мірам між бальшавікамі й Польшчай, беларускі народ і бальшавікоў, і Палякаў прыняў, як сваіх ворагаў і ніколі не пагадзіўся з накінутай яму няволяй па абодвых баках Рыскае мяжы. Народныя думкі й настроі таго часу найлепш выказаныя словамі Якуба Коласа супраць паняволеньня й падзелу Беларусі, сказаныя ім у 1921 годзе:

Сьціхні ты, змоўкні песьня пакуты,
Заварушыся наш край!
Люд беларускі рві свае путы,
Новую песьню сьпявай!

Нас падзялілі! Хто? Чужаніцы!
Цёмных дарог махляры!
К чорту іх межы, к д'яблу граніцы!
Нашы тут гоні, бары!

Падзеі 1917-1920 гг. пераконліва паказалі, што зерне нацыянальнага адраджэньня было кінутае ў урадлівую глебу. Ня гледзячы на нязвычайныя цяжкасьці й перашкоды, яно хутка дало багатыя плады.

✳

Але найвялікшая сіла беларускае нацыянальнае ідэі праявілася ў вапошні пэрыяд, калі Беларусь апынулася ў няволі маскоўскага бальшавізму. У часе да 1930 году, калі яшчэ існавала некаторая свабода беларускага нацыянальнага жыцьця й дзейнасьці ў БССР, Беларусы за няцэлае дзесяцігодзьдзе змаглі дабіцца такіх вялізарных дасягненьняў у кажнай галіне нацыянальнага жыцьця, для здабыцьця якіх звычайна патрабуецца у некалькі разоў даўжэйшага часу. У галіне літаратуры, мастацтва, тэатру, музыкі, навукі й наагул нацыянальнае культуры Беларусь зраўнялася ў гэным часе ня толькі з найбольш разьвітымі народамі Савецкага Саюзу, але ў многіх выпадках дасягнула агульнаэўрапэйскага ўзроўню. Гэта быў час, калі Беларусь узыйшла на свае ўзвышшы!

Ад 1930 году быў зьнішчаны ўвесь цьвет нацыянальнае інтэлігенцыі, нішчацца найвялікшыя культурныя здабыткі, трывае жорсткая забарона нацыянальнага жыцьця й творчасьці, праводзіцца прымусовая русыфікацыя краю. І ня гледзячы на ўсё гэта, беларускі народ не заламаўся духова, не пакарыўся перад ворагам, ня выракся сваей нацыянальнай ідэі. Апошнія месяцы й тыдні прыносяць што раз часьцейшыя весткі аб масавых актах супраціву савецкай уладзе ў БССР, аб дамаганьнях большае свабоды для разьвіцьця нацыянальнае культуры, аб дамаганьнях спыненьня русыфікацыі, аб антысавецкіх выступленьнях студэнцкае моладзі й інтэлігенцыі.

Гэтак уся гісторыя беларускага нацыянальнага адраджэньня й нацыянальна-вызвольнага руху й змаганьня дае нам многа прыкладаў, што беларускі народ, які стыхійна імкнецца да свабоды й незалежнага жыцьця, зьяўляецца жыцьцяздольным, творчым і прагрэсуючым народам. Нацыянальная ідэя беларускага народу, як найвышэйшая мэта ягоных духовых імкненьняў, зьяўляецца сілай неперажнай і нязьнішчальнай. А гэта найлепшая зарука таго, што дзяржаўныя прынцыпы, выказаныя 39 год таму ў векапомным Акце 25-га Сакавіка, раней ці пазьней мусяць стацца рэальнай запраўднасьцю.

**Алесь Крыга**

# Бунт беларускага студэнцтва

(З радыёвай хвалі «Голасу Амэрыкі»)

**Радыё «Голас Амэрыкі», у сваей польскай праграме, перадало 7 сакавіка сёлета наступную інфармацыю:**

«На Захад пранікаюць весткі аб фэрмэньце сярод студэнтаў на ўнівэрсытэтах ў Менску, сталіцы беларускай рэспублікі. Ужо восеньню, ворган ЦК партыі «Камуніст Беларусі» паведаміў аб тым, што з вышэйшых школаў Беларусі было выкінута дзьвесьця студэнтаў за «нястачу дысцыпліны». Гэтая быццам «нястача дысцыпліны» мела, як здаецца, ідэнтычны грунт, што і ў іншых навучальных установах у іншых савецкіх гарадох. Гэта вынікае із справаздачы з пленуму Цэнтральнага Камітэту партыі ў Менску, абвешчанага ў сьнежанскім нумары таго-ж «Камуніста Беларусі». У ім чытам:

«Мала ўсьвядомленыя элемэнты й рознага роду крыкуны сярод студэнцкай моладзі праяўляюць незадаваленьне зь лекцыяў і сэмінарыйных практыкаваньняў. Яны дэзарганізуюць асяродзьдзі жыцьця моладзі».

Далейшыя інфармацыі прыносіць студзенскі нумар «Камуніста Беларусі». Галоўны партыйны ворган адкрыта прызнаецца:

«Знайшлося сярод студэнцкае моладзі шмат такіх, якія падпадаюць пад уплыў варожай прапаганды... Яны крытыкуюць наш сацыялістычны лад загражаюць існуючаму парадку і іхным прынцыпам. Распаўсюджваюць рознага роду чуткі, ачарняюць партыйны і ўрадавы апарат. У сваіх выступленьнях паменшваюць і навет асьмейваюць заваяваньні сацыялістычнага будаўніцтва, а пераўвялічваюць скрыўленьні й недацяжкі нашага будаўніцтва. Яны малююць савецкую запраўднасьць у чорных хварбах... Такога роду зьявішчы можна заўважыць асабліва сярод некаторай катэгорыі інтэлігенцыі, а асабліва сярод студэнцкай моладзі. Шырыцца там іржа нігілізму і шкоднае крытыканцтва».

Што абазначае ў савецкім жаргоне тэрмін «крытыканства», ведама. Гэта недазволеная камуністычнымі ўладамі крытыка сыстэмы, якая здушвае праўдзівыя інфармацыі й незалежную апінію. А гэтых дзьвюх рэчаў якраз дамагаюцца сяньня студэнты ў Саветах.

«Камуніст Беларусі» наракае далей што

«Знайшлося шмат такіх, якія, чытаючы польскую прэсу, хвальшыва яе камэнтуюць. Абапіраючыся на рознага роду плётках, гавораць аб скасаваньні калектыўнае сыстэмы сельскае гаспадаркі», (усе цытаты пераведзеныя з польскае мовы — Рэд.).

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

**Уладзімер Дудзіцкі**

# Дваццаць пяты

У перакладзе на нямецкую мову*)

Zu allen Zeiten wird man davon sagen,
Was sich ein Volk erwarb an hohen Ruhm,
Es bleiben auch in fernsten Erdentagen
Im Buch der Weltgeschichte eingetragen
Der Ahnen Taten und ihr Heldentum.

Wir blättern heute in verblich'nen Seiten
Und fühlen, daß der alte Geist noch lebt,
Daß wir, trotz allem Ungemach der Zeiten
Mit neuer Kraft dem Ziele näherschreiten,
Das Mut und Tapferkeit von je erstrebt.

Es brennt die Welt und dumpfe Glocken mahnen
An uns'res Volkes schweren Opfergang,
An Blut und Tränen, an das Leid der Ahnen:
Voll tiefer Trauer senken wir die Fahnen
Vor all' den Teuren, die der Kampf verschlang.

Hört Ihr die Heimaterde heimlich weinen
Ob all' der Vielen, die der Tod umwarb?
Wie bittre Tränen will ihr Tau erscheinen
Um uns're Brüder und den großen Einen,
Held Kalinowski, der für uns einst starb.
Die Rache lebt! Einst werden wir vergelten!

Dies ist der Tag, der ewig in uns neu,
An dem wir uns dem Feind endgegenstellten
Zu retten unser Wesen, uns're Welten,
Dem Vaterland, dem Freiheitsbanner treu!

Aus tausend Gräben dringen stille Klagen —
Aufs neue aber jagt der Sturm durchs Land
Wie ehemals in jenen Frühlingstagen,
Da wir der fremden Fessel uns entschlagen
Und unser Volk die Freiheit wiederfand!

Aufs neue, Brüder, ist es März geworden,
Aufs neue Weißrutheniens Schicksalszeit!
Fegt sie hinweg, des Teufels wilde Horden!
Der schwerste Kampf wird unser Volk nicht [morden,
Seid Ihr, den Ahnen gleich, zur Tat bereit!

Zu allen Zeiten wird man davon sagen,
Was sich ein Volk erwarb an hohen Ruhm,
Es bleiben auch in fernsten Erdentagen
Im Buch der Weltgeschichte eingetragen
Der Ahnen Taten und ihr Heldentum.

Пераклаў **Hermann Riedmüller**

*) Верш «Дваццаць пяты», напісаны да 25-ай гадавіны Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, быў перакладзены Гэрманам Рыдмюлерам на нямецкую мову й надрукаваны ў 1943 годзе ў нямецкай газэце „Minsker Zeitung". Назову верша ў нямецкай мове ня помню. — *Аўтар.*

# За мінулы тыдзень

**(пс)** Найбольш шуму было навокал справы Ізраэля. Нялёгка было вялікім дзяржавам, а перадусім Злучаным Штатам змусіць Ізраэля вывесьці сваё войска з занятых тэрыторыяў, аднак, калі навет да гэтага дайшло — праблема не разьвязалася. Міністар замежных справаў Ізраэля, Голда Мэйер заявіла, што ў выпадку намаганьня эгіпскага ўраду аднавіць блякаду затокі Акаба, у акцыю будуць уведзеныя ізраэльскія ваенна-марскія сілы. Голда Мэйер таксама асьветчыла, што Ізраэль засьцерагае сабе поўную свабоду дзеяньня, калі-б узнавілася акцыя эгіпскіх дывэрсантаў з раёну Газа на ізраэльскай тэрыторыі.

Арабскія-ж краіны заяўляюць, што як у затоцы Акаба, так і ў раёне Газа будуць паступаць паводля сваёй фантазіі. Такім чынам ня выключана, што над Левантам ізноў запахне порахам. Бедны спадар Гамэршэльд мае найбольшыя клопаты з маленькім Ізраэлям, які ня хоча падпарадкавацца ньюёрскай гаварыльні. Гамэршэльд ізноў ляціць у Эгіпт і будзе намагацца пераконваць Насэра і намаўляць яго да прыняцьця ізраэльскіх дамаганьняў. З другога боку Масква ціхенька, але кансэквэнтна нацкоўвае эгіпскага дыктатара на далейшыя арабскія авантуры і намагаецца далей муціць ваду ў канале, а транспарты савецкай зброі плывуць на Блізкі Ўсход. Таму спадар Гамэршэльд лепш-бы зрабіў, каб патурбаваўся ўплысьці на крамлёўскіх хуліганаў, каб яны захоўваліся прызваіта. Аднак, як ведаем, з ЗН ніхто ня лічыцца, а — найменш бальшавікі. Няслаўнай памяці Ліга Народаў у сваім часе загаварылася на сьмерць, з ЗН хіба будзе тое самае.

☆

Ня гледзячы на ўвядзеньне ваеннага палажэньня у паасобных раёнах Інданэзіі, там далей адбываюцца забурэньні супраць цэнтральнай улады. Пасьля ўпадку інданэзыйскага ўраду, прэзыдэнт Сукарно паведаміў аб прыняцьці на сябе ўсей цывільнай і ваеннай улады ў краіне. Іншымі славамі — абвесьціў сябе дыктатарам. Аднак яму будзе цяжка знайсьці іншае разьвязаньне праблемаў, як адмовіцца ад цэнтралістычнага курсу і стварэньня фэдэральнай дзяржавы з шырокай аўтаноміяй для правінцыяў. Ня лёгка будзе Сукарно па дыктатарску кіраваць 82 мільёнамі насельніцтва, разьмешчанымі на 3000 вастравоў.

Як ведама, аднэй з галоўных прычынаў інданэзыйскага крызісу быў намер Сукарно дапусьціць камуністых да ўдзелу ў урадзе. Флірт з камунізмам, як бачым, ня выйшаў на здароўе.

☆

У мінулым тыдні адбылося яшчэ адно выпрабаваньне вадароднай бомбы ў Савецкім Саюзе. Бальшавікі наймацней крычаць, што трэба спыніць гэту небясьпечную гульню з бомбамі, але цішком і часьценька самі гэтым забаўляюцца. Аднак, як-бы цішком яны ня ўзрывалі гэтыя бомбы, кажны выбух натуюць сэйсмаграфы, а яшчэ больш выразна аб гэтым сьветчаць радыяактыўны пыл і дождж, якія не на жарты непакояць Японцаў. У вадрозьненьне ад заходніх дзяржаваў, бальшавікі нікога ня перасьцярагаюць, ані не папярэджваюць. Адным словам — гуляюць цішком, хаця зь вялікім гукам. Тут-бы спадар Гамэршэльд павінен крышку замітусіцца...

# Да гадавіны сьмерці Кастуся Каліноўскага

23-га сакавіка 1864 году на маскоўскай шыбеніцы ў Вільні загінула найяснейшая постаць нашае навейшае гісторыі, народны герой Беларусі — Кастусь Каліноўскі.

У нашай мінуласьці ня мала было ахвярных змагароў, склаўшых сваё жыцьцё на аўтар бацькаўшчыны. Але няма амаль такога ймя, якое-б настолькі было дарагім для Беларуса, такім папулярным у народзе. Хто ня чуў зь Беларусаў аб «Пісьме спад шыбеньніцы», гэтым запавеце нашага героя свайму народу? Хто не захапляўся шляхотнымі рысамі характару гэтага піянэра нацыянальнага й сацыяльнага вызваленьня Беларускага народу?

Можна выпадкова сустрэцца сяньня й з такім паглядам, што быццам-бы беларускія нацыяналістыя штучна стварылі навокал імя Каліноўскага нейкі нацыянальны міт, спапулярызавалі яго, а ў запраўднасьці Каліноўскі ня меў тых якасьцяў і значаньня для беларускае справы, якое яму прыпісваецца.

Мы ведаем, у імя якіх «мітаў» хвабрыкуецца падобная хлусьня, ведаем каму ня выгадна й небясьпечна праўда аб Каліноўскім.

Аб Каліноўскім мы не патрабуем ствараць мітаў. Даволі тых дакумэнтальных крыніцаў, якія сяньня, хоць і ў вабмежаванай колькасьці, можна пракансультаваць, каб жыцьцёвы шлях, сьветапагляд, змаганьне й ролю Каліноўскага прадставіць ува ўсёй аб'ектыўнасьці. гэтая аб'ектыўнасьць якраз і робіць з Каліноўскага таго героя, за якога яго Беларусы лічаць.

Цікава, што аб Каліноўскім чужынцы пісалі якраз больш, чымся Беларусы, хаця маючы на ўвазе нашае паложаньне ў мінулым — гэта зусім зразумела. І важна тут падкрэсьліць той факт, што ўсе характарыстыкі Каліноўскага мы якраз узялі ня толькі ад чужынцаў, але нярэдка навет і ад ворагаў Каліноўскага. Што да гэтых апошніх, дык яны часамі, ня гледзячы на сваю варожасьць, былі змушаныя сьхіліць галаву перад духовай моцай гэтага змагара й прызнаць яму належнае.

Вось колькі прыкладаў характарыстыкі Каліноўскага, якія мы можам знайсьці ў польскай ці расейскай літаратуры.

Польскі аўтар В. Кардовіч, апісваючы дзейнасьць К. Каліноўскага яшчэ ў Петраградзе, адзначае наступнае:

«Кастусь у тым часе штораз больш праяўляў ініцыятыву, штораз больш праяўляў сябе дасьпелым дзеячом, перавышаючы часта шматлікіх супрацоўнікаў сваім палітычным розумам, сілай волі, дарам мовы і трапнымі паглядамі. Пераймаючы ад сваіх узгадаваўцаў найлепшыя рысы характару, ён выростаў на дзеяча вялікае меры. Ягоныя рысы характару і ўсебаковая палітычная адукацыя зьядналі яму сымпатыю й пашану сярод людзей ня толькі блізкіх яму ідэялягічна, але й сярод яго палітычных праціўнікаў...» (W. Kordowicz, Konstanty Kalinowski, Warszawa, 1955, s. 66).

А вось Кастусь Каліноўскі ў Вільні незадоўга да паўстаньня:

«З усіх гэных асобаў што ўваходзілі ў Камітэт Руху ў Вільні — А. Г.) вырозьніваўся Кастусь Каліноўскі. Ня гледзячы на малады век, ён адзначаўся вялікай station... 

Гейштар, адзін зь кіраўнікоў паўстаньня, які аднак ідэялягічна разыходзіўся з Каліноўскім, пісаў аб ім наступнае ў сваіх мэмуарах: «Ад першага жнівеня 1863 году да арышту ў студзені 1864 году Каліноўскі быў душой дагараючай крывавай літоўскай дэманстрацыі. Ён мог уцякаць зь Вільні, але гэтага ён ніколі навет не дапушчаў, бо ўважаў за свой абавязак, як быў першым кансьпіратарам на Ліцьве, так застацца апошняй ахвярай тэрору Мураўёва... Быў ён незраўнанай вытрываласьці й асабістай ахвярнасьці, быў найшляхотнейшым, найчысьцейшым прадстаўніком незраўнанага кансьпіратара; гэтага адзінага чалавека хапала за сотні, бо ўмеў працаваць, ахвяроўвацца й скрывацца» (Gieysztor, Pamiętniki, 1913, t. II, s. 51).

Расеец Бранцаў, для якога Каліноўскі быў «мяцежнікам» і небясьпечным ворагам, ды аб якім ён шмат хвальшу навыпісваў, усё-ж быў змушаны сьхіліць галаву перад нязвычайнай адвагай свайго ворага. Ён пісаў: «Гэты выдатны чалавек, ня гледзячы на свае тыповыя рысы, усім ведамыя, навет тайнай паліцыі, жыў у Вільні зусім адкрыта; стала спацыраваў у парку, еў абеды ў рэстаранах, і ніхто з адміністрацыі не заўважаў яго. Калі-б Каліноўскі хацеў уцякаць зь Вільні, дык мог-бы зрабіць гэта прынамсі разоў дваццаць» (Прянцев. Польский мятеж 1863 г., б. 236).

У ўспомненай ужо кніжцы Кардовіча ў вапошнім падразьдзеле п. н. «Кастусь Каліноўскі ў сьвятле гістарычнай праўды» аўтар ставіць пытаньне — кім быў Кастусь Каліноўскі і за што загінуў? І адказвае так: «Ён злажыў сваё жыцьцё ў вахвяру беларускаму народу; сваім маладым, але вялікім розумам, сваім вялікім сэрцам патрапіў стварыць сынтэзу жаданьняў беларускага народу й кінуць зарыс візіі будучага лёсу гэтага народу. Гэта вялікія заслугі; мог іх здабыць толькі чалавек, які ўжыўся ў жыцьцё народу, зразумеў яго болі й радасьці, патрэбы й жаданьні, які стаўся найбольш вартаснай часткай народу — ягоным народным героем» (б. 283).

Стваральнікі хвальшу аб «мітах» хай уважна прачытаюць гэтыя цытаты зь небеларускіх аўтараў. Ад сябе мы ня маем патрэбы нічога больш дадаваць. Нам дастаткова **гістарычнае аб'ектыўнае праўды.**

Успамінаючы-ж гэтую трагічную дату нашае гісторыі, мы найлепш адзначым памяць беларускага народнага героя, калі мы возьмем глыбака да сэрца ягоны запавет ды калі хоць у нейкай частцы здабудземся на тую мужнасьць, вытрываласьць і бясконцую ахвярнасьць, якую ён праявіў у змаганьні за Незалежную Беларусь.

**А. Галубіцкі**

# Апошнія хвіліны Кастуся Каліноўскага

**(Урывак з кніжкі: W. Kordowicz, Konstanty Kalinowski, Warszawa, 1955, r. 267-270).**

Устала ясная, сьцюдзёная раніца 23 сакавіка 1864 году. Ужо рана а 9 гадзіне ля брамаў падамініканскае турмы коннае й пешае войска напагатове чакала загадаў. Быў гэта канвой, што меў адвесьці Каліноўскага на месца экзэкуцыі. Таксама й на Лукіскім пляцы была ўстаўленая вайсковая варта, а парадкавыя аддзелы занялі адпаведныя пункты на прылеглых вуліцах і завулках. Вуліцы гэтыя й брамы, што да іх прылягаюць, запаўняліся штораз большай колькасьцяй людзей. На Лукіскім пляцы віднела з воддалі пастаўленая тут ужо ўночы шыбеніца.

З вайсковай пунктуальнасьцяй вырушыў Кастусь Каліноўскі з турмы, акружаны канвоем пяхотным і конным. Апошнюю яго дарогу, вуліцы званыя пазьней Віленскай, Гданскай, Партовай і Студзеньскай а таксама галоўную вуліцу Вільні, званую тады Сьвятаерскай, запоўнілі масы. Каліноўскі йшоў адважна, праважаны паглядамі столькіх адданых яму прыяцеляў. Зь ягонае постаці, з твару біла глыбокая вера ў слушнасьць справы, за якую ён гінуў, пэўнасьць будучае перамогі. Ён хацеў гэтую пэўнасьць і веру пераліць у сэрцы сяброў, што глядзяць на яго, у сэрца народу, для дабра якога аддаў сваё маладое жыцьцё. Гэтак горда хоць і сумна разьвітваўся Кастусь з гэтым горадам і яго народам, сярод якога, хоць і ў кароткім часе, перажыў стольні надзеяў, згрызотаў і нутранога змаганьня, дзе няўтомна змагаўся за долю бацькаўшчыны й за долю гэтага якраз народу, так вельмі пакаханага ім.

Таксама Лукіскі пляц занялі нязьлічоныя масы. У меру таго, як набліжаўся канвой, залягала сьмяротная цішыня. Натоўп застыў у бязруху, сьледзячы кажны рух, кажны крок Каліноўскага. Пад поглядамі тысячаў суродзічаў Каліноўскі ставаўся штораз сільнейшы, штораз больш горды, выростаў на героя, які ўмее памерці з такой самай адвагай, як умеў змагацца ў жыцьці.

Урэшце Каліноўскі стаў на месцы экзэкуцыі, на памосьце спэцыяльна з гэтай мэтай збудаваным; зьвярнуўся тварам да шыбеніцы ды час ад часу кідаў погляды на схваляваны, нямы натоўп... Адчыталі прысуд. Каліноўскі ўпэўненым голасам рабіў розныя заўвагі, што датычылі ацэны ягоных чынаў. Яшчэ цяпер, у вабліччы сьмерці, ён агалошваў праўду ў словах кароткіх, зьмястоўных, поўных жару ідэі. Словы гэтыя цяжка падалі ў сэрцы народу, што яго кахаў, падалі як зерне ў добра падрыхтаваную глебу, запавядаючы ў будучыні багаты ўраджай. Калі ў канцы адчытванага прысуду палі словы: «Шляхціц Канстантын Каліноўскі» ён крыкнуў: «У нас няма шляхты, мы ўсе роўныя».

...Кастусь Каліноўскі навет сьмерць на шыбеніцы сустрэў з годнасьцяй народнага героя, з адвагай чалавека, які верыў, што ягоныя ідэялы, аплачаныя маладым жыцьцём, не памруць разам зь ім; які быў перакананы, што ягоная мучаніцкая сьмерць патрэбная для прабуджэньня ў народных масах, асабліва ў масах улюбленага ім беларускага народу, новага жыцьця.

...Так перастала біцца сэрца, што народ горача пакахала, сэрца бясстрашнае, якога адзінай трывогай была трывога за будучыню бацькаўшчыны і долю вясковага народу ў гэтай бацькаўшчыне...»



# Бунт беларускага студэнцтва

**(Заканчэньне з 2-ой бачыны)**

Як ведама, Беларусь — край выразна сялянскі й сельскагаспадарскі, асабліва цяжка пераўжыў гады прымусовай калектывізацыі. Відаць, пасьля дваццаці зь лішнім гадоў там зь ёй канчальна не пагадзіліся. Зусім можа быць магчымым, што прылучэньне пасьля вайны да беларускай рэспублікі тэрыторыяў Усходняе Польшчы (г. зн. Заходняе Беларусі — Рэд.) разбудзіла нанава тугу да індывідуальнае гаспадаркі. У кажным выпадку ёсьць вельмі характэрным, што беларускіх студэнтаў, якія ў бальшыні рэкрутуюцца з жыхароў вёскі, ворган камуністычнае партыі абвінавачвае сяньня ў выступленьнях супраць «калектыўнае сыстэмы сельскае гаспадаркі». Гэта паказвае, што беларускі селянін ня прывык і не пагадзіўся з камуністычным спосабам сельскае гаспадаркі».

# Камісія Нацыянальнасьцяў у Беластоку

2 сакавіка г. г. радыё Беласток (у польскай мове) паведаміла аб тым, што створаная дзень раней на паседжаньні ваяводзкага камітэту польскае камуністычнае партыі Камісія Нацыянальнасьцяў пачала сваю працу. Старшынём Камісіі зьяўляецца Ян Сенкевіч, сакратар беластоцкага камітэту ПЗПР (польскае камуністычнае партыі). У камісію ўваходзяць 3 прадстаўнікі Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў Польшчы (Жук, Валкавыцкі й Вішнеўская), 1 прадстаўнік Украінскага Грамадзка-Культурнага Таварыства (Шынкаровіч) 2-х сяброў арганізацыйнага камітэту Летувіскага Культурна-Грамадзкага Таварыства (Налёхіс і Нэбіліс) і прадстаўнік Жыдоўскага Культурна-Грамадзкага Таварыства (Атмаер). Акрамя таго, да Камісіі Нацыянальнасьцяў належаць кіраўнік ваяводзкага аддзелу нутраных справаў Антон Роско, дырэктар аддзелу прапаганды беластоцкага камітэту ПЗПР Юзэф Пенькоўскі, і заступнік кіраўніка аддзелу асьветы Станіслаў Маляж

Як падало беластоцкае радыё, на сваім першым паседжаньні 2 сакавіка г. г. прадстаўнікі розных нацыянальных меншыняў прадыскутавалі галоўныя праблемы, зьвязаныя з гэтымі меншынямі, вызначылі галоўны кірунак працы Камісіі, а таксама галоўныя заданьні Камісіі на бліжэйшую будучыню.

Летувіскія прадстаўнікі паведамілі на паседжаньні, што летувіская арганізацыя будзе заснаваная ў гэтым месяцы.

На паседжаньні таксама дыскутаваліся цяжкасьці, якія сустракаюцца на шляху культурных і асьветных арганізацыяў, што працуюць сярод нацыянальных меншыняў, а таксама (выпадкі нацыяналізму», які праяўляўся сярод розных угрупаваньняў Палякаў, як і сярод **Беларусаў, Летувісаў і Ўкраінцаў**, якія жывуць у заяводзтве.

Камісія пастанавіла таксама, што аддзел асьветы павінен даваць большую дапамогу беларускім, летувіскім і ўкраінскім школам і настаўнікам, якія натыкаюцца на паважныя цяжкасьці, як прыкладам брак школьных падручнікаў і г. д.

Была таксама зьвернутая ўвага на выпадкі рэлігійнае дыскрымінацыі ды, як гаварылася ў паведамленьні, «выкарыстоўваньне Царквы для пашыраньня нацыянальнае варожасьці».

Зусім відавочна, што у вабодвых выпадках справа першым чынам у польскім шавінізьме, супраць якога змагаюцца нацыянальныя меншыні. **У. С.**

**Я. Станкевіч** 5)

# Беларускае нацыянальнае адраджэньне (1902-1915)

## Нашаніўцы, людзі й плыні

Нашаніўцы — панскія сыны прымалі пастановы пра адабраньне ад паноў зямлі бяз выкупу. Такія-ж пункты ўводзілі яны ў сваю праграму і гэты-ж лёзунг быў у пашыраных імі закліках. Найгалаўнейшай прычынаю таго, чаму ня толькі сяляне, але й прадстаўнікі іншых станаў прынялі ў беларускім руху сялянскую ідэялёгію, відавочна, было тое, што сялянства ня толькі найбольшая складовая часьць беларускага народу, але й найляпей этнаграфічна захаваная, што-ж да паноў, асабліва большых, дык **дзейнымі** сябрамі беларускага народу ёсьць усё-ж ткі цяпер толькі адзінкі; дзеля таго доля народу (як нацыі) беларускага мусіць утажсамляцца з доляю беларускага сялянства, і кажны, зь якога-б стану ён не паходзіў , калі ўступае ў рады беларускага руху, мусіць працінацца патрэбамі беларускага сялянства і выходзячага зь яго работніцтва — мусіць прымаць сялянскую ідэялёгію. Гэтак ёсьць ужо ад часу К. Каліноўскага.

Дык з гледзішча на свой асабовы склад беларуская нацыя ёсьць нацыяй шматклясавай, хоць прапарцыянальныя дачыненьні між клясамі ў ёй з часам зьмяніліся на карысьць т. зв. клясаў ніжшых; але з гледзішча ідэялягічнага беларуская нацыя ёсьць бясклясавая — сялянска-мяшчанская, разумеючы пад сялянамі й засьценкавую шляхту, а пад мяшчанамі — жыхароў местаў і мястэчак, у тым ліку работнікаў. І дзеля таго ў супярэчцы на разгляданую тэму паміж маскоўскімі камуністымі й беларускімі нацыянальнымі дэмакратамі («нацдэмамі») праўда была Беларусаў.

### Праца для свайго народу

Адцемлю яшчэ пару характарыстычных рысаў нашаніўцаў. Аднэй зь іх было вымаганьне працаваць толькі для справы свайго народу. Выходзілі з таго, што трэба працаваць для таго, хто найболей патрабуе працы. Беларускі народ найболей патрабуе, бо ён паняволены, і адно невялічкая часьць ягоных дзяцей працуе для яго, іншыя — несьвядомыя — аддаюць свае сілы й час чужнікам, звычайна сваім нацыянальным ворагам. Дзеля таго сьвядомыя Беларусы павінны аддаць усе магчымыя свае сілы й час свайму народу, а то яны будуць ужо сьведама абкрадаць свой народ, што несьвядомыя робяць нясьведама. Дзеля гэтае рысы і іншых характарыстычных рысаў нашаніўства, можна было жыць у пару «Нашае Нівы», быць сьвядомым, зн. ідэйным Беларусам, і ня быць нашаніўскім адраджэнцам. Вось, прыкладам, праф. М. Даўнар-Запольскі быў ідэйны Беларус, але ня быў нашанівец. Кваліфікаваны гісторык-нашанівец не чакаў-бы, пакуль В. Ластоўскі (Власт) выдасьць сваю эрзац-гісторыю, але напісаў-бы і выдаў-бы сам. Праўда, калі-б гэта ён зрабіў пад сваім прозьвішчам, то ня быў-бы прафэсарам унівэрсытэту. Але мог апрацаваць і выдаць (меў свае на гэта грошы) патайно пад іншым прозьвішчам. Яму гэта, адылі, відавочна, і ў дум ня прыходзіла. Ён ня прывык даваць грошы на выдаваньне сваіх працаў, але адзержаваць за іх грошы. Ёнжа па сваёй ахвоце закладае ў 1905—1908 г. г. гандлёвыя й іншыя школы ў Кіяве, дарма што Беларусам яны там ня былі патрэбныя[17]).

Другой вельмі характарыстычнай рысаю нашаніўцаў было нацыянальнае ўсьведамляньне. Нашаніўства і ёсьць нішто іншае, як шырака закроенае й праводжанае нацыянальнае ўсьведамляньне. Усьведамляньне рабілася пры помачы «Нашае Нівы», што да 1912 году выходзіла кірыліцаю й лацініцаю, із 1912 г. толькі кірыліцаю.

Фактычным (але не ўрадава-адказным) рэдактарам яе быў спачатку Антон Луцкевіч, пасьлей Вацлаў Ластоўскі і Янка Купала. Выдавалася «Саха», сельска-гаспадарскі месячнік. З 1913 году ў Менску выходзіць часапіс для маладзежы «Лучынка» і часапіс для дзяцей «Іскрачка»; абодва рэдагуе Цётка (А. Пашкевічанка). Беларускія студэнты ў Пецярбурзе выдаюць часапіс «Раніца». Каталіцкая плынь выдае ў Вільні з 1913 г. або з пачатку 1914 г. часапіс «Беларус».

Гаспадарскую старану выдаваньня «Беларуса» забясьпечыў кс. Пр. Будзька, даючы на гэта, відавочна, свае асабістыя сьціплыя сяродкі або зьбіраючы іх у сяброў гэтае плыні, звычайна ў ксяндзоў Беларусаў. Горшая справа была з рэдагаваньнем гэтага часапісу. Ня было тады ў Вільні ніводнага беларускага ксяндза. Сам кс. Будзька, хоць паходзіў зь Віленскае дыецэзіі, быў ксяндзом у дыецэзіі Магілеўскай. Дык ня лёгка было знайсьці чалавека, што быў-бы добрым Беларусам, добрым каталікам і добрым рэдактарам. Выбар Будзькаў паў на Баляслава Пачопку, Беларуса з-пад Вільні. Было гэта паўзучае недалужнае стварэньне. Праз ягоную недалужнасьць сьветчыць наступнае. Ягоным ідэялам было стацца ксяндзом. Але ён ня мог здаць эгзамену за аптэкарскага вучаньніка, што вымагалася дзеля дапушчэньня да эгзамену ў каталіцкую духоўную сэмінарыю. Дык ён падрабіў пасьветчаньне. Схвальшаваньне, адылі, выкрылася, і ён ці то ня быў прыняты ў сэмінарыю, ці быў зь яе звольнены. Дзеля такога рэдактара рэдагаваньне «Беларуса» не належыла да добрых.

Вельмі добрым снадзівам нацыянальнага ўсьведамляньня была літаратура. Асабліва памагалі ў гэтым вершы Янкі Купалы. Із собскага дазнаньня ведаю, што творы пра гора й галіту беларускага сялянства, зьдзек над ім таксама памагалі пры ўсьведамляньні, як і апісаньні хараства й багацьця Беларусі і яе слаўнага мінулага. Літаратура адбівала жыцьцё і церабіла дарогу новаму жыцьцю. Што нашаніўскі рух меў сваю прыгожую літаратуру, сьветчыць, што ён быў рухам народу, нацыі.

Іншай снадзьдзю ўсьведамляньня быў тэатр, як аматарскія выступленьні ў Вільні і іншых мясцох, так і якісь час разьездны тэатр Ігната Буйніцкага.

Але нацыянальнае ўсьведамляньне ня было толькі справаю літаратуры, друку наагул і ў меншай меры тэатру. Павіннасьць нацыянальна ўсьведамляць сваіх несьвядомых братоў і сёстраў, зн. усіх несьвядомых Беларусаў, ставілася да літаратараў і нялітаратараў, да пішучых і няпішучых, — ставілася да ўсіх чыста нашаніўцаў, і яны гэту павіннасьць наагул спаўнялі. Добры прыклад да гэтага даваў сам кіраўнічы цэнтр руху. Як народнікі, так і сацыялістыя праводзілі ўсьведамляючую работу.

Пры спаўняньні павіннасьці ўсьведамляньня і было маё першае знаёмства зь Іванам Луцкевічам. Пачаць гутарку зь незнаёмым пра беларускі рух найлягчэй было карыстаючыся нумарам «Нашае Нівы». Вымеш «Нашую Ніву», робіш выгляд, што чытаеш, хоць яе даўно ўжо бываеш прачытаўшы, папытаешся ў незнаёмага, ці ён чытае «Нашую Ніву», ну й пачынаецца гаворка пра беларускае адраджэньне. Аднойчы гэтак у вагоне я выняў «Нашу Ніву» і зараз пабачыў, што адзін із спадарожнікаў у тым самым прадзеле вагону таксама яе выняў. Быў ім Іван Луцкевіч. Аказалася, што мы абодва вынялі «Нашу Ніву» з тэй самай мэтаю — пачаць усьведамляючую гаворку.

Апрача рэдакцыяў часапісаў, арганізаванымі пунктамі ўсьведамляньня былі Беларускія Кнігарні (яны так і зваліся). Першая Беларуская Кнігарня была ў Вільні, спачатку пры рэдакцыі «Нашае Нівы», а потым асобна ля Завальнае вуліцы № 7; тут за сьцяною кнігарні была гаспода В. Ластоўскага, каторы, між іншага, і загадаваў кнігарняю. Другая кнігарня была адчынена ў 1913 ці на пачатку 1914 году ў Полацку, туды паслалі Канстанцыю Буйлянку. У 1914 годзе адчынілі кнігарню ў Менску і пастанавілі пасьлаць туды мяне, але ў жніўні пачалася вайна зь Немцамі, мужчынаў майго веку бралі ў войска, і мая кандыдатура за загадніка кнігарні адпа-

# Інтэрв'ю з князем Базылём Сьвятаполк-Мірскім

**Ад Рэдакцыі.** Вельмі нядаўна праз Аўстрыю ў Заходнюю Нямеччыну прыбыў князь Базыль Сьвятаполк-Мірскі, які адбыў адзінаццацігадовы тэрмін зьняволеньня ў савецкіх турмах і канцэнтрацыйных лягерах. Князю Сьвятаполк-Мірскаму — 52 гады. Гэта адзін зь нешматлікіх прадстаўнікоў старога беларускага арыстакратычнага роду, які ня згубіў сувязі з нашым народам, захаваў любоў да Беларусі й ейнага гістарычнага мінулага. Князь Сьвятаполк-Мірскі вызначаецца шырокімі дэмакратычнымі паглядамі й горача падтрымоўвае беларускі вызвольны рух, які, як паважаныя чытачы пабачаць ніжэй, ня гасьне навет у савецкіх канцлягерах. Адным зь першых крокаў кн. Сьвятаполк-Мірскага ў вольным сьвеце было навязаньне сувязі з нашай эміграцыяй.

Ніжэй зьмяшчаем інтэрвью нашага карэспандэнта з князем Сьвятаполк-Мірскім.

*

**Пытаньне.** Вельмі Вам дзякуем, Князю, за вашу гатовасьць адказаць нам на некалькі пытаньняў ды падзяліцца з намі Вашымі перажываньнямі. Ці не маглі-б Вы расказаць нам, у якіх абставінах Вы былі арыштаваныя й засуджаныя?

**Адказ.** У 1945 годзе ўвосені я быў арыштаваны, ці дакладней кажучы, **украдзены** на аднэй з вуліцаў гораду Вены. Мяне зусім нечакана схапілі й ушturхнулі ў самаход дзьве зусім мне невядомыя цывільныя асобы. Як выявілася пасьля, гэта былі ахвіцэры савецкай разьведкі. Мяне завезьлі ў нейкую вільлю ды ўкінулі там у маленькі, сыры склеп. Пасьля двух тыдняў допытаў, мяне адтуль самалётам адставілі ў Маскву. Пасьля сьледзтва ў Маскоўскіх турмах, мяне выслалі на Далёкую Поўнач у лягер, засудзіўшы г. зв. «особым совещанием» на дваццаць год «папраўча-працоўных лягераў», ці йнакш кажучы — канцлягераў.

**Пытаньне.** Ці да высылкі ў лягер доўга давялося Вам сядзець у турме?

**Адказ.** Сьледзтва цягнулася цэлы год у ведамых усяму сьвету маскоўскіх засьценках — турмах Лефортава й Лубянка.

**Пытаньне.** І ў які лягер выслалі Вас адбываць тэрмін зьняволеньня?

**Адказ.** Мой першы лягер — перасыльны — быў у Пячоры. Пасьля мяне паслалі далей на поўнач. Там давялося мне пабыць у шмат якіх лягерах за час майго зьняволеньня.

**Пытаньне.** Вас часта перакідалі зь лягеру ў лягер?

**Адказ.** Вельмі часта, і ня толькі мяне — гэта бальшавіцкі прынцып. Яны часта перакідаюць зьняволеных з аднаго лягеру ў другі, каб ня даць ім магчымасьці арганізоўвацца наагул, а таксама, каб супрацьдзеіць арганізаваным масавым уцёкам.

**Пытаньне.** У лягерах, дзе Вам давялося быць, хіба як і ўсюды ў савецкіх канцлягерах — людзі самых розных нацыянальнасьцяў?

**Адказ.** Цяжка сабе ўявіць большую мазаіку з гледзішча нацыянальнай прыналежнасьці й грамадзянства. Бязумоўна, асноўную масу складаюць народы Савецкага Саюзу, г. зн. савецкія грамадзяне. Але й чужынцаў — не савецкіх грамадзян — у лягерах вялічэзная колькасьць. Навет такіх, якіх, здавалася-б, ужо ніяк не пабачыш у савецкіх канцлягерах, як прыкладам Гіндусаў, Японцаў, Інданэзійцаў, Філіпінцаў, Карэйцаў, афрыканскіх Нэграў, Бразылійцаў і шмат іншых, не гаворачы ўжо аб прадстаўнікох усіх эўрапэйскіх краінаў.

**Пытаньне.** Як яны там апынуліся?

**Адказ.** Гісторыя іхных арыштаў самая розная. Аднак у шмат якіх выпадках яна падобная на маю: іх лавілі, як жывёлу на паляваньні ўсюды, дзе толькі бальшавіцкая рука мела доступ.

**Пытаньне.** Ці не маглі-б Вы сказаць некалькі слоў аб нацыянальным складзе зьняволеных, бяручы пад увагу толькі людзей з камуністычных краінаў?

**Адказ.** Менш за ўсіх ў лягерах Расейцаў; больш за ўсіх — Украінцаў, Беларусаў, Палякаў, Эстонцаў, Летувісаў, Латышоў. Найбольшы працэнт складаюць Украінцы. У лягерах таксама вельмі шмат прадстаўнікоў народаў Сярэдняе Азіі й Каўказу.



Князь Базыль Сьвятаполк-Мірскі

**Пытаньне.** Чым, на Вашу думку, гэта выясьняецца?

**Адказ.** Больш за ўсіх у лягерах прадстаўнікоў тых народаў, якія падчас апошняе вайны былі пад нямецкай акупацыяй. Бальшавікі вывезьлі адтуль усіх «нядобранадзейных», у першую чаргу нацыянальна сьведамы элемэнт, пагалоўна абвінавачваючы яго ў калябарацыі з акупантамі. Я, прыкладам, знаў у лягеры аднаго Ўкраінца, якога засудзілі на 25 гадоў, што ён папраўляў Немцам калёсы на іхных вазох! «Калябаранцтва» было для бальшавікоў добрым прэтэкстам. Але, як я казаў, у лягерах таксама шмат прадстаўнікоў народаў Сярэдняй Азіі й Каўказу, якія не пакідаюць нацыянальнага супраціву.

**Пытаньне.** Вы нядаўна сказалі, што зьняволеных часта перакідаюць зь лягеру ў лягер, каб ня даць ім магчымасьці арганізоўвацца. Ці не хацелі Вы гэтым сказаць, што зьняволеныя маюць свае падпольныя арганізацыі?

**Адказ.** Бачыце, на гэтае пытаньне мне вельмі цяжка адказаць так, каб не пашкодзіць сваім сябром, якія засталіся **там.** «Бацькаўшчыну» напэўна чытаюць і бальшавікі... Магу толькі сказаць, што ў няшчасьці людзі аднэй нацыянальнасьці задзіночваюцца асабліва моцна. Арганізаваны супраціў *у лягерах* існуе. Вось чаму бальшавікі так часта перакідаюць зьняволеных. Яны намагаюцца зноўтралізаваць гэты супраціў, што ім, зрэшты, не ўдаецца.

**Пытаньне.** Ці Беларусы таксама маюць свае арганізацыі?

**Адказ.** Беларусы далёка не зьяўляюцца выключэньнем у гэтым выпадку. Наадварот — хоць іх у лягерах параўнальна менш за Ўкраінцаў, беларускія арганізацыі гэткія-ж актыўныя, як і ўкраінскія.

**Пытаньне.** Якія мэты ставяць гэтыя арганізацыі?

**Адказ.** Іх можна сфармуляваць вельмі коратка: змаганьне зь вечным ворагам, змаганьне за аднаўленьне свабоды й нацыянальнае незалежнасьці. Да гэтага дадам, што нашы суродзічы, хоць і асьцярожныя, але волялюбныя, і ніколі ня звыкнуцца з накінутым ім бальшавіцкім ярмом. Будучы ў лягерах, яны стараюцца арганізавана супрацьставіцца ўсяму таму, што магло-б іх загубіць па адным. А супрацьставіцца чэкістым можна толькі зарганізавана, і гэта трэба ўмець рабіць. На гэтым месцы хацеў-бы я расказаць Вашым чытачом аб выдатных беларускіх дзеячох, зь якімі мне даводзілася сустракацца ў зьняволеньні. Нажаль, цяпер яшчэ на гэта ня час.

**Пытаньне.** Мы вас вельмі добра разумеем. Цяпер можа скажаце нам пару слоў аб умовах жыцьця зьняволеных. Ці шмат зьмянілася ад часу, калі Вы апынуліся ў зьняволеньні, да мамэнту Вашага выхаду зь лягеру? Калі так, дык у чым гэтыя зьмены палягаюць?

**Адказ.** Маё адзінаццацігадовае прабываньне ў зьняволеньні я дзялю на два асноўныя пэрыяды: пэрыяд сталінскі й пасьлясталінскі. Першы пэрыяд самай нялюдзкай жорсткасьці, голаду, хваробаў і розных перасьледаў. У другім пэрыядзе жыцьцё ў лягерах крыху палепшала. Гэты пэрыяд характэрызуецца намаганьнямі калектыўнага кіраўніцтва паказаць сябе лепшымі за Сталіна, паказаць сваю «гуманнасьць», захоўваючы хоць мінімальныя нормы «сацыялістычнае законнасьці». З гэтай прапагандовай мэтай яны пачалі плаціць за работу ды крыху лепш карміць, а таксама зьнялі краты з вокнаў і нумары з вопраткі. Бязумоўна, чалавеку з вольнага сьвету і гэтае «лягчэйшае» жыцьцё было-б нязносным і жудасным. Спатрэбілася-б цэлая кніга, каб апісаць усё хоць збольшага.

**Пытаньне.** Ці зьняволеныя ў савецкіх канцлягерах паінфармаваныя аб тым, што робіцца вонках лягераў, г. зн. на гэтак званай «волі» ў Савецкім Саюзе, а таксама за ягонымі межамі?

**Адказ.** На Захадзе я сустрэўся з хвальшывым перакананьнем, што зьняволеныя поўнасьцю ізаляваныя ад вонкавага сьвету, і таму ня ведаюць, што там дзеіцца. На справе-ж, у лягерах ведама **ўсё,** што робіцца на «волі». Зьняволеныя

(Заканчэньне на 8-ай бачыне)

**Адзін з найбольш актыўных і адданых справе супрацоўнікаў «Бацькаўшчыны» й сябра ейнае Рэдкалегіі, спадар ЯНКА ЗАПРУДНІК 19 сакавіка сёлета выэміграваў у Задзіночаныя Штаты Амэрыкі.**

**У новай краіне пасяленьня мы жадаем далейшае плённае працы на беларускай нацыянальнай ніве й жыцьцёвых посьпехаў Яму й Ягонай сям'і!**

**Рэдкалегія «Бацькаўшчыны»**

## Сакавіковае прывітаньне

**Беларуская Сэкцыя Радыя «Вызваленьне» вітае ўсё беларускае грамадзтва на эміграцыі зь Вялікім Днём 39-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі і жадае найвялікшых посьпехаў у цяжкім змаганьні за шчасьлівую будучыню Народу й Бацькаўшчыны.**

**Векапомны Акт 25 Сакавіка — гэта нацыянальны Ідэял, да якога накіраваныя й думкі й дзеяньні Беларускага Народу Ідэял які вёў, яе і будзе весьці нас на змаганьне зь цёмнымі сіламі камуністычнае рэакцыі да канчальнае перамогі — вызваленьня Беларусі і аднаўленьня Незалежнае Беларускае Рэспублікі.**

**За Свабоду і Незалежнасьць.**

**Жыве БНР!**

**25. III. 1957.**

**Беларуская Сэкцыя Радыя «Вызваленьне»**

---

ла. Здаецца за загадніка Беларускай Кнігарні ў Менску быў Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.). Быў плян закласьці беларускія кнігарні ў кажным большым беларускім месьце.

Усьвядоміць значыла ня толькі даць веданьне пра беларускі народ і ягоную справу, каторую ўжыцьцяўляў беларускі рух, але й заразом прышчапіць беларускую ідэю. Дзеля таго слова «сьвядомы» ў дачыненьні да Беларуса адзержыла значэньне «ідэйны».

### Гаспадарская дзейнасьць

Матарыяльнай базаю беларускага руху павінны былі стацца беларускія гаспадарскія арганізацыі, прадпрыемствы. Нельга сказаць, каб пра гэта нашаніўцы ня рупіліся. Пра рупатлівасьць іхную ў гэтым кірунку сьветчыць іхнае імкненьне арганізаваць масавых рамесьнікаў, такіх, як прыкладам рукавічнікі ў мястэчку Гальшанах Ашмянскага павету (цэлае мястэчка масава рабіла на продаж рукавіцы й панчохі) — каб палепшыць спосаб вырабу й збываць тавар без пасярэднікаў. Але пра якія большыя рэзультаты ў гэтым кірунку ня чуваць было. Былі спробы й каапэратыўнае арганізацыі, але тут былі перашкоды з боку расейскае адміністрацыі. Прыкладам, у Вільні ўлада доўга не зацьвярджала статуту каапэратыўнае крамы «Райніца». Разважаньні расейскіх ураднікаў былі гэтакія: што значыць «Райніца»? Чаму «Райніца»? Райніца — гэта судзіна, у каторую зьбіраюць пчаліны рой. Але калі зьбяруцца такія Беларусы, дык як яны паставяцца да Расеі? Была праўда адміністрацыі: зыбраўшыся, дзейныя Беларусы не маглі-б добра паставіцца да Расеі. Усё-ж-ткі наапошку «Райніца» была зацьверджана: статут ейны падпісалі людзі, у каторых паліцыя не магла дакапацца беларускае дзейнасьці. Пасьлей, па рэвалюцыі, у 1917-1921 гг. беларускі каапэратыўны рух разьвіўся ў вялікую арганізацыю.

Гаспадарская непрактычнасьць нашаніўцаў праявілася і ў закладаных кнігарнях. Прадавалі ў іх толькі беларускія кніжкі й часапісы, што пры малой колькасьці тады друкаванага беларускага слова давала кнігарням дэфіцыт. Прымеж таго, калі-б прадаваць у кнігарнях яшчэ пісьменныя снадзі й матарыялы, дык кнігарні аплачвалі-б сябе. Пасьлей, але ўжо па нашаніўскай пары, гэта й дагадаліся рабіць. Найпершай патрэбай было — купля друкарні, але гэтага нашаніўцы не зрабілі[18]). Відавочна сялянскага або дробна-панскага паходжаньня нашаніўцы, апрача хіба ралейнае гаспадаркі, ня мелі навыкаранасьці ў гаспадарскіх прадпрыемствах.

### Ходаньне

Нашаніўцы мусілі ходацца із сваймі несьвядомымі братамі Беларусамі ды з русыфікатарамі й палянізатарамі. Расея штогоду кідала шмат мільёнаў на абрусеньне Беларусі. Русыфікацыю сыстэматычна праводзіў гаспадарствавы апарат, войска (тым, што Беларусаў бралі ў войска і высылалі зь Беларусі, і тым, што Беларусь была наводнена расейскім войскам), паліцыя, зрусыфікаваная царква, школа, друк. Палянізацыю праводзіў спалянізаваны касьцёл і спалячаныя панскія двары, а часткава й вялікія месты, як Вільня й Беласток; апрача таго, помач на палячаньне йшла і з самае Польшчы ў форме друку й капіталу. Зь першым сваім родным праціўнікам і з двума другімі — расейскім і польскім ворагамі беларускі адраджэнскі рух змагаўся ўсюдых — у друку, у грамадзкіх арганізацыях, у клюбах, у школе, у сям'і, пры выпадкавых сустрэчах. Русыфікатары карысталіся ў гэтым ходаньні ўсімі вялікімі сяродкамі, што былі ў іхным загадзе: з пачатнае й сярэдняе школы, праз паліцыю й суд, празь няшчысьлёнае мноства ўрадовых выданьняў, празь «брацкія» лісты й школьныя падручнікі, — усюдых ішла прапаганда, што беларускі рух — «польская інтрыга». Тое самае рабілі палянізатары праз спалячаны касьцёл, панскія двары і чысьленыя друкі, даводзячы, што беларускі рух — «расейская інтрыга». Адныя й другія, апрача таго, даводзілі, што беларускае адраджэньне ёсьць плод цёмнага розуму, які хоча загнаць Беларусь у процьму няпісьменнасьці й асталасьці[19]). Дарма што былі такія няроўныя сілы, «беларускі нацыянальны рух, — як добра кажа Цьвікевіч — перасьледаваны, урадова зганены, да сьмешнага бедны на матарыяльныя сяродкі, памалу, але нямінуча пашыраўся й захапляў усё новыя стані»[20]).

Хіба цікава будзе адцеміць настроі нашаніўцаў па выбуху расейска-нямецкай вайны ў 1914 годзе. Вось-жа, як правіла, нашаніўцы ня прынялі Расеі[21]). Гэта была здаровая рэакцыя, бо нельга прыяць таму, хто дзяржыць цябе ў няволі. Але былі адзінкі ды сярод каталікоў, што ўсётакі зычылі перамогі Расеі. Гэта былі людзі нізкія на вочы (нізкавокія), яны мелі наўвеце каталіцкую часьць Беларусаў і ўважалі, што ў ходаньні з Палякамі Беларусам-каталіком памогуць Расейцы. Такая спадзева была абмыльная, ды яна не пацьвярджалася сучаснымі фактамі. Расейцы ў некаторай меры памагалі Лятувысам і Эстонцам ды Латышом вызваліцца першым з-пад польскага, а другім і трэйцім з-пад нямецкага ўплыву, але Беларусам-каталіком яны ня думалі памагаць. Расея жадала зрусыфікаваць усіх чыста Беларусаў, але не спадзяючыся даць рады ўсім, згаджалася валей аддаць Беларусаў-каталікоў на жыр Паляком, чымся каб яны захавалі сваё нацыянальнае жыцьцё. Нацыянальна нішчыць праваслаўную часьць Беларусаў і адначасна памагаць іх часьці каталіцкай Расея не магла, бо Беларусы-каталікі ў вялікай меры жывуць пераляшаўшыся зь Беларусамі праваслаўнымі, шмат якія маюць у сваёй радні праваслаўных, а бывае, што й з двух родных братоў адзін праваслаўны, а другі каталік, і дзеля таго ідэя беларускага адраджэньня перакідалася-б ад Беларусаў-каталікоў да Беларусаў праваслаўных.

### Найвыдатнейшыя нашаніўцы

Калі-б я разглядаў літаратуру, то назваў-бы гэтта Купалу й Коласа, з большымі і меншымі засьцярогамі, паказаў-бы, чаго яны не зрабілі, каб быць вялікімі бяз абмежаньняў, і што зрабілі, каб таковымі ня быць. Але я ня літаратуру разглядаю, але апісваю нацыянальнае адраджэньне; дзеля таго назаву іншых.

Найперш **братоў Луцкевічаў.** Яшчэ студэнтамі яны пасьвяціліся справе свайго народу, абраклі ёй навуковую й грамадзкую кар'еру, сваё жыцьцё; усё жыцьцё і кажную часіну рупіліся пра справу беларускага народу і працавалі дзеля яго. Яны найпершыя арганізатары нашаніўскага адраджэньня.

**Іван Луцкевіч,** скончыўшы археалягічны інстытут, стаўся ведамцам дарагіх старавечных рэчаў. Купляе іх, дзе луча. Чужыя прадае і зароблены грошы аддае на беларускую справу, у тым ліку на куплю беларускіх старавечных памяткаў, каторымі не гандлюе. Такім парадком за свайго недаўгога жыцьця ён стварыў цэлы беларускі музэй, каторы й падараваў Беларускаму Навуковаму Таварыству ў Вільні. Ужо аднаго гэтага даволі, каб заслужыць сабе вечную славу й падзяку патомных. Але гэта толькі адзін бок ягонае дзейнасьці.

Другім бокам было пашыраньне самае справы і зьбіраньне на яе сяродкаў. І ніхто ня мог гэтага так добра зрабіць, як Іван Луцкевіч. Снадзьдзю ягонай была вусная прапаганда, асабістыя знаёмствы і ногі, хадня й падарожжы. «Мала хто зь Беларусаў разьяжджае», — казаў ён, Дыкжэ мала, бо мала было такіх, як Іван Луцкевіч. З выняткам работы каталіцкае плыні, блізу на ўсю іншую работу здабываў сяродкі Іван Луцкевіч. Здабываныя ім сяродкі йшлі рэдчас і на тое, каб патрэбных руху людзёў паддзержыць матарыяльна ў крытычную часіну іхнага жыцьця. Такое паддзержаваньне вынікала з пачуцьця адказнасьці за ўсю беларускую справу. У ўсёй сваёй дзейнасьці, стыкаючыся з рознымі людзьмі, Іван Луцкевіч быў із мужыком мужык, з панам — пан, з праваслаўным — праваслаўны, з каталіком — каталік, з пратэстантам — пратэстант і г. д., але з усімі заставаўся Беларусам.

Зьбіраючы сяродкі на беларускую справу, ён, як і ягоны брат Антон, у сваім асабістым жыцьці былі вельмі ашчадныя. А як ставіўся да скарбаў беларускага народу, няхай сьветчыць наступнае. За нямецкае акупацыі 1916-1918 гг. цяжка жылося Луцкевічам у Вільні з гледзішча матарыяльнага, межавала з

# Вершы Рыгора Крушыны

(Працяг зь 5-ай бачыны)

### У ЗАСМУЧАНЫХ ЭМОЦЫЯХ

Сабе дарогу песьняй сьцелячы,
Шукаю родныя мэлёдыі.
Уражаньне зь нью-ёрскай велічы
Расьце, а лірай не валодае.

Не, не натхніць мяне шум вуліцы,
Сабвэю бразганьне зялезнае!
Мур-каменіца ў неба сунецца,
Як тая вежа вялічэзная.

Ад ста паверхаў вокны волата
Схапілі сонечнае полымя.
А ці ў душы маёй, як золата,
Зайграе іскрамі вясёлымі?

Туга па бацькаўшчыне моцная,
Найбольшая ад гэтай велічы.
Іду ў засмучаных эмоцыях,
Сабе дарогу песьняй сьцелячы.

1953.

### АПОСТАЛ КАХАНЬНЯ

Прырода Палесься
Яго напаіла
Крынічнаю песьняй,
Зарой небасхілу.

І выйшаў ён проста
Зь вясковага раньня,
Як новы апостал
Людзкога каханьня,

Такога зямнога
Жывога каханьня,
Аж болю замнога,
Трывог і згараньня.

Ці ў гэтым загана?
Ці-ж доля схлусіла?
Пад сэрца загнана
Прыгожая сіла.

Палескіх гушчараў
Ён мовы ня кінуў.
Ня страціў тых чараў
На бруку Брукліну.

1957.

# Песьні пра „лугі з рамонкамі“

(Заканчэньне зь 5-ай бачыны)

мастаком сьвету. Характарыстычным для Крушыны якраз ёсьць тое, што ў яго эратычныя пачуцьці асацыююцца з нацыянальна-патрыятычнымі пачуцьцямі, зьяўляюцца адны з другімі арганічна або прычынова павязанымі. Сам аўтар у сваей лірычнай паэме «Эротава скрыпка» прызнаецца:

Эрот са мною. Прызнаюся,
Ён неадлучны сябра мой.
Мы разам зь ім у Беларусі
Дуэт наладжвалі ігрой.

У лірычнай паэме «Кантата самотных», найлепшым, на нашую думку, творы Крушыны вобраз мілай дзяўчыны сымбалізуе сабою вобраз Беларусі. Гэта выразна відаць ужо зь першых радкоў паэмы:

Твой вобраз мілы, твой партрэт,
Як рыцар казкі амулет,
Па сьвеце ў сэрцы пранясу.
Ён часта гоіць мае раны,
Тваёй красой мой Край Забраны
Сваю выказвае красу.

І далей: «Мой няўміручы Край жыве ў Тваім цнатлівым харасьцьве», — зьвяртаецца паэта да дарагой дзяўчыны, найлепш падчыркваючы гэтым неразрыўную сувязь між эратычнымі й патрыятычнымі эмоцыямі.

Нацыянальна-патрыятычныя пачуцьці займаюць выдатнае месца ў Крушыны. Яны пераважна ўзьнікаюць дарогай асацыяцыі або кантрастаў да зьяваў і абразоў, спатыканых на чужыне. Гэтак у вершы «Ці пачуе», які належыць да цыклю «Лірыка зь вялікага места», нью-ёрскія «муры-хмарадзёры», дзе «кураць пылам камяні», выклікаюць у паэты зусім кантрастовае ўяўленьне ціхіх і лагодных абразоў роднага краю, і ён гаворыць:

Прыгадаў сады я Случчыны
І лагоду цішыні.

Падобны прыклад можна прывесьці зь верша «Азалія», з цыклю «Вершы з Капры», у якім аўтар апісвае пышнае харастве гэтага слаўнага турыстычнага італьянскага астраўка. Ён піша:

Я ўсё тут бачу іншае —
Садоў інакшы строй,
Над Капры неба сіньшае...
І песьні нада мной
Пяшчотнымі ды звонкімі
Зьліваюцца ў салют.
...А ўсё-ж лугі з рамонкамі
Я не забуду й тут.

Гэтак бадай заўсёды ў Крушыны. Апісаньне абразоў і зьяваў на чужыне, яе адменнасьці ад Беларусі й пышнага харастве не зьяўляюцца самамэтай у мастацкім працэсе, але толькі настраёвым фонам, на якім разгортваюцца абразы і ўспаміны роднага краю.

Крушына зьяўляецца лірыкам у даслоўным значэньні. Ягоны верш як музыкай слова, гэтак і вобразам дзеіць перадусім на пачуцьцёвасьць чытача. Лірызм Крушыны ня ёсьць выбуховы й дынамічны, але ціхі, лагодны, пяшчотны, а разам з тым глыбокі й праўдзівы. У галіне паэтычнае формы й мастацкіх прыёмаў аўтар ня робіць ніякае літаратурнае рэвалюцыі. З гэтага гледзішча ён ідзе ўжо працярэбленым традыцыйным шляхам. Тым ня меней, аднак, ягоныя творы, як шчырасьцю й глыбінёю пачуцьцяў, гэтак і беззаганнасьцю тэхнікі займаюць важнае месца ў беларускай паэзіі на эміграцыі.

Крушына знаходзіцца сяньня ў росквіце сваіх паэтычных сілаў. Таму ёсьць падстава спадзявацца, што беларуская літаратура атрымае ад яго яшчэ шмат выдатных паэтычных твораў.

**Ст. Крушыніч**

*Алеся Салавей*

# Зьнічы

### ЗЬНІЧЫ

Малым дзічком ты быў да маладосьці
і жыў між дрэў, між траў. Плыла рака.
Зіхцела высь. Бязьмежжа весялосьці
гушкала сьвет на крылах ветрака.
Ці-б не хацеў паўтору тэй любосьці?..
Стырчма тырчыць шчаціньне ў вяпрука.
Ні сонца йшчэ, ні зоры йзноў, ні зьнічы
ня вернуць больш нявіннай раньняй дзічы

### ШЛЯХ

„...Green in Summer, white in Winter,
Ever sighing, ever singing.“
(H. W. Longfellow).

Усё ўздыхай і мучайся, і енч аж —
адчуеш там садоў і ніваў сьпель.
Красой вясны зяленівасьць увенчыш,
зыграеш ёй зімы сьцюдзёнай бель.
Адзіны сьпеў — пабожна нізка ўкленчыш
жыцьцю свайму, у ім — нязьгіну хмель:
у гушчарох — у лесе і за лесам —
нязблудны шлях нясьхільным Гэркулесам.

### КОЛА

І круціцца гісторыі ўсё кола,
у ім — адзін і той-жа самы дзень:
узмах крыла вышыннага сакола,
за небасьхіл прадонная карцень.
Высокі ўстрыб і нізкі звал. Наўкола
пазнай жыцьця няўрымсьцьлівы струмень:
адведаць высь, вярнуцца ўдол — ня спасьці,
крылатым зноў радзіцца на прапасьці.

### СЛОВА

Яно паўстала на тваім пачатку,
было цяплейшым, найласкавым:-- «Ма-ма»...
Сьціскала сэрца ўтратных зыкаў гама,
калі забралі і я г о, і татку.

Зрывала восень з дрэў, з палёў апратку.
Ступаў у безьведзь — стрэла школы брама
за ёй пабачыў: слова — цемры яма.
Сьвятло блізкога зьзяла толькі ўкрадку.

Пад перагасай штормаў, бураў, ветраў
расхрыстаў грудзі найглыбейшых нетраў —
жыцьцё пульсуе рытмам незмаўканым:

ад нівы хілай, стромага узвышша
шырэй гамоніць, больш узьнёсла піша,
папеліць жахі вольных дум вульканам.

### ВОДДАЛЬ

Прачнесься воддаль зь першым «ку-ка-рэ-ку»
яшчэ сампоўнач. Досьвітак ня блізка.
Спакой сялібы. Раньняя адбліска.
зары далёкай не замжэ павеку.

І адчувацьмеш вейную бясьпеку:
высока зьзяе празаранкі рыска,
і песьціць долу зыбкая калыска
шляхі ў нябёсы птаху-чалавеку.

Ляце празорнай за гарой крутою
купацца ў сонцы, сябраваць з хадою —
абы да траваў дакрануцца босым;

па дабравесьцю — громе пяруновым —
як і ў маленьсьцьве, усьміхацца новым
ліпнёвым краскам і купальскім росам.

*Фэльетон*

# Пры нагодзе аб сім-тым...

Калі-б мы правялі анкету сярод нашай эміграцыі і ў гэтай анкеце паставілі пытаньне «на чым вы стаіце?», думаю, што атрымалі-б цікавыя адказы. Напрыклад, рэалісты адказаў-бы: «на зямлі»; праўдападобна знайшліся-б людзі з гумарам, якія-б адказалі: «я ні на чым не стаю, бо я плаваю ў саладусе», аднак было-б шмат гіп-патрыётаў, якія-б друкаванымі літарамі (block letters) напісалі і падкрэсьлілі: «Я стаю на Акце 25-га Сакавіка».

Калі-б мы ізноў запыталіся: «а што далей?» — гіп-патрыёта адказаў-бы: «далей буду стаяць на Акце...» Наступнае пытаньне: «Што вы робіце для гэтага Акту?» Адказ: «Стаю на Акце...» І так «Гаўрыла, круці навокал!...

Ня трэба вельмі вялікай фантазіі, каб уявіць, як ужо знаёмыя і незнаёмыя гох-гіп-супэр-обэр патрыёты моршчаць насы, насупліваюць бровы і разглядаюцца, ці ёсьць пад рукой крушня, каб мяне ўкаменаваць. Таму адразу прашу: спакойна, бяз нэрваў Спадарове, бо нэрвы блага дзеюць на страўнік і прыгажосьць...

Як ведама, «патрыёт» паходзіць ад слова «Patria» — бацькаўшчына. Бацькаўшчыну-ж любіць кажны, а «пралетарскі інтэрнацыяналізм» — шыш на меркі. Шчыры патрыятызм — добрая рэч, яшчэ лепш, калі пры патрыятызьме ёсьць розум. Але патрыятызм на паказ — кашаль і колькі разам. А яшчэ горш, калі слова «патрыёт» рыфмуецца зь «ідыёт».

На Акце стаяць нельга. Акт — гэта сымбаль, сьцяг — яго трэба несьці, пад ім змагацца. Калі-ж аднаго з другім «патрыёта» выбраць у якуюсь управу ці ворган, ён (ня ворган) гатоў выскачыць з 20 паверху хмарачосу, каб уцячы ад нясеньня сымбалю.

Мая хата з краю... Я стаю на Акце...

(Заканчэньне на 8-ай бач.)

Зінаіда Бандарына

# Ой, рана на Йвана

### (Старонкі маленства Янкі Купалы)

**АД РЭДАКЦЫІ:** Апавяданьне Зінаіды Бандарыны «Ой, рана на Йвана», якое пачынаем друкаваць у гэтым нумары «Бацькаўшчыны», упяршыню было зьмешчанае ў нумары 12 менскага літаратурнага часапісу «Полымя» за 1956 год, а пазьней выйшла ў Менску асобнай кніжкай. Ня гледзячы на тэндэнцыйнае згушчэньне хварбаў у вапісаньні нягоднасьці паноў у іхных дачыненьнях да сялянства, гэтае апавяданьне для нас цікавае з гледзішча на выведзенага ў ім галоўнага гэроя, якім ёсьць Янка Купала ў свае дзіцячыя й дзяцюцкія гады.

✳

Белая пяшчаная зьвілістая сьцежка вяла ўгару, да магутных смалістых соснаў. Адтуль, з гары, перад вачыма адкрываўся прыгожы краявід — палі, пералескі, курганы. Быў канец чэрвеня. У сасновым бары пасьпелі першыя сакавітыя суніцы; лясныя паляны й сенажаці стракацелі духмянымі ружовымі кветкамі, а жоўтаротыя птушаняты, якія ў пяршыню пакідалі цёплыя гнёзды, вучыліся лятаць. У гэты час нашы дзяды й прадзеды звычайна сьвяткавалі Купальле.

На заліўных сенажацях і лясных палянах шэравокая Бянігда й яе сяброўкі зьбіралі рамонкі, званочкі, яркачырвоную смолку; на ўзьмежках жытнёвага поля яны рвалі васількі і ўвесь час сьпявалі:

— Ой, ра-а-на на Йвана...

У халадку ля крынічнай рэчкі дзяўчаты плялі з кветак вянкі, кідалі іх у ваду й варажылі — збудзецца іх жаданьне ці не. Калі-ж у небе загараліся зоркі, старыя й маладыя аднавяскоўцы ішлі па роснай траве праз густы арэшнік да высокай гары. Падымаючыся на гару, яны ўваходзілі ў лес, распальвалі там агні, вадзілі вакол карагоды, сьпявалі:

Купалінка, Купалінка,
Цёмная ночка...

Потым хлопцы й дзяўчаты скакалі цераз агонь, а самыя адважныя, узяўшы палаючыя галавешкі, ішлі ў лясны гушчар шукаць кветку папараці — кветку шчасьця. Здавён жыло павер'е аб тым, нібы, хто знойдзе гэтую нябачную кветку, будзе самым шчасьлівым чалавекам.

Ярка гарэла вогнішча, іскры шугалі ў самае паднябесьсе. Шчасьцем зьзялі вочы вясёлага парабка Дамініка, калі слухаў ён, як сьпявае Бянігда. Яны даўно пакахалі адзін аднаго. Пажаніліся.

Абое былі маладыя й дужыя, працавітыя. Толькі што з таго, калі няма дзе гаспадарыць. Пайшоў Дамінік да пана зямлі прасіць. Той падумаў і нарэшце сказаў:

— Магу й на гэта даць згоду, бяры зямлю на запашку, палавіньнікам будзеш. — І, усьміхнуўшыся дадаў: — Сей, не шкадуй, а што намалоціш — у мой сьвіран зьвязеш.

Не баяўся Дамінік работы, а пра сьвіран падумаў, што пажартаваў пан.

— Пры дбайнай працы зямля ўсіх пракорміць, — не адзін раз гаварыў ён жонцы.

Далі ім кавалак панскай зямлі. На той зямлі — камень на камені, чартапалох палыном паганяе. Зь цямна да цямна працавалі маладыя, каменьне з поля выбіралі, пустазельле зьнішчалі.

Надыйшоў час сеяць, а ў Дамініка Луцэвіча няма ні зернятка.

Зноў з паклонам пайшоў да пана Дамінік. Той не адмовіў, толькі ўсьміхнуўся ў другі вус і сказаў:

— Я табе не шкадую, маім насеньнем засееш першы раз, ды на маім полі за яго й адробіш...

І на гэта згадзіўся Дамінік. Усё лета ён і жонка працуюць да дзесятага поту на панскім полі, апрацоўваць арандаваны кавалачак зямлі. Аднак у хатцы на беразе Вязынкі, дзе яны пасяліліся, пуста й гола. Прыйдзе час ураджай зьбіраць — усё дачыста завязе Дамінік пану, і то за даўгі не расплоціцца, яшчэ вінаваты застаецца.

У ноч пад Івана Купалу, 25 чэрвеня 1882 году, на хутары Вязынка нарадзіўся ў іх сын Янка.

У лесе, на гары, як заўсёды, сьпявалі дзяўчаты. Ад зыркіх вогнішчаў у ціхае неба ляцелі іскры і ўспыхвалі там залатымі зоркамі. Туманнай раніцай Дамінік узяўся вастрыць касу і, павярнуўшыся пасьвятлелым тварам да сваёй хаткі, падумаў: «Сын! Вырасьце — памочнікам будзе...» У думках ён ужо вучыў Янку, як працаваць на зямлі, каб стаць запраўдным гаспадаром. Падрасьце, зойме поруч з бацькам пракос, засьвішчуць косы, хто каго апярэдзіць. У хаце за шырокай печкай Дамінік павесіў драўляную калыску. Маладая Бянігда, нахіляючыся над ёй, калыша сына, ласкава называючы яго Ясікам, і ціхенька напявае:

Сьпі, сыночак міленькі,
Галубочак шызанькі...
Мой сыночак будзе спаць,
А я буду калыхаць.
А-а, а-а, люлі! А-а, а-а, люлі!

Нашто, вецер, ты гудзеш,
Спаць Ясіку не даеш?
Сьпі, сыночак, міленькі...
А-а, а-а, люлі! А-а, а-а, люлі!

Ўспомніш матку ты сваю,
Як цябе люляла,
Як табе у ноч ня раз
Песню я сьпявала.
А-а, а-а, люлі! А-а, а-а, люлі!

### ПЕРШЫЯ КРОКІ

Міналі дні. Непадалёку ад рэчкі, дзе канчалася заліўная сенажаць, паўкругам былі пасаджаны маленькія кучаравыя ліпкі. Хапаючыся за іх рукамі, Янка вучыўся хадзіць. І вось хлопчык падрос. Аднойчы, калі Янка адважна пабег за бацькам і дагнаў яго ля панскага ганку, за белай калёнай ён убачыў пана. Таго самага, якім ня раз палохала яго маці: «Ціха, а то пан пачуе...» Круглы, як шар, пан ня йшоў, а каціўся насустрач і, прытупваючы нагой, крычаў:

— Ведаю я вас усіх! Дармаеды!

— Сам ты дармаедзіна! — зьбялелы ад гневу, сьцісනуўшы кулакі, адказаў Дамінік. І тут-жа, падхапіўшы на рукі перапалоханага сына, шпарка пайшоў да сваёй хаткі.

Усьлед ляцелі пагрозы й лаянка. Пан загадаў Луцэвічам зараз-жа выселіцца з хутару.

Дамінік зь сям'ёй і пажыткамі перабраўся да знаёмых на вёску. Там заначавалі.

На досьвітку, каб не наклікаць панскага гневу на суседзяў, пайшлі ў лес. Імжыў васеньні дождж. Да самых касьцей працінаў вецер. Ляніва разгараўся агонь. Падкідаючы сухое гальлё, Дамінік злосна гаварыў:

# Дзесяцігодзьдзе Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі

## (1947-1957)

10 год існаваньня арганізацыі — гэта невялікі прасьцяг часу. Для Беларусаў аднак, асабліва для тых, што жывуць на брытанскім абтоку, гэта няштодзённае здарэньне. Як сьвет сьветам, туташні звычайны жыхар ніколі ня чуў аб Беларусах, і калі яму ўжо ад некалькіх гадоў намагаемся паясьніць складаную для яго праблему, дык ён больш дзівіцца, чымся дзівіўся-б зь нечаканае зьявы даўных барадачоў-нарманаў... Слава Вялікага Княства Літоўскага, адкуль не адзін грамадзянін трапляў у Ангельшчыну, даўным даўно забытая, а супрацьбеларуская прапаганда нашых некаторых суседзяў давяла да таго, што звычайны сьмяротнік-Ангелец барджэй адрозьніць чужыя пералётныя птушкі, чым Беларуса ад Расейца або Паляка.

Таму, бачна, трэба было, каб мы ў сваім расьцярушаньні ўсё-ж такі прыйшлі сюды ў шматтысячнай групе ды каб далі знаць аб сабе тым, якія ў нядаўным былі наймагутнейшымі валадарамі сьвету, дый яшчэ й сяньня іхная палітычная і культурная роля мае сваю вялікую вагу.

Радасна сьвяткуючы 10-цігодзьдзе існаваньня ЗБВБ, мы спынімся на галоўных мамэнтах у жыцьці ЗБВБ ды апішам канцэрт, які адбыўся ў Лёндане 24 лютага сёлета і які запачаткаваў юбілейныя сьвяткаваньні.

☆

ЗБВБ як арганізацыя паўстала ў Вялікабрытаніі, аднак грунт для ягонага паўстаньня быў падрыхтаваны яшчэ ў Італіі ў 1945-46 гадох, куды трапіла рознымі шляхамі некалькі тысяч беларускіх хлапцоў, што разам з Палякамі пабывалі на розных франтах. 24 красавіка 1946 году ад імя Беларускага Камітэту Самапомачы ў Рыме быў высланы на рукі Галоўнага Камандзера Польскіх Збройных сіл 2-га корпусу ў Італіі мэмарыял, у якім былі выказаныя наступныя жаданьні з боку Беларусаў:

1) Выдаць вайсковы загад на кальпартаж сярод беларускіх жаўнераў «Беларускіх Навінаў».

2) Дазволіць і ўмагчыміць выданьне беларускае газэты для беларускіх жаўнераў, апрача «Беларускіх Навінаў», і прызначыць на выданьне яе двух жаўнераў-Беларусаў.

3) Выдаць загад з дазволам на зарганізаваньне сярод жаўнераў Беларускае Самапомачы.

Адказ на гэты мэмарыял, падпісаны генэралам Вісьнёўскім, прышоў вельмі позна, бо аж 15 кастрычніка і толькі з частковым разьвязаньнем пастаўленых Беларускім Камітэтам Самапомачы дамаганьняў. Польскія вайсковыя ўлады згаджаліся на кальпартаж «Беларускіх «Навінаў». Зрэшты, «Бел. Нав.» і без дазволу хадзілі па руках нашых вайскавікоў і гэткім чынам яны адыгралі ролю вельмі важнага лучніка між імі, Беларускі Камітэт Самапомачы (БКС) ў Рыме, які складаўся гэным часам толькі з двух беларускіх сьвятароў, рабіў усё магчымае, каб Беларусы «пазнаходзіліся» ды навязалі міжсобку лучнасьць. Паводля слоў польскага міністра Тарноўскага, у 2-ім польскім корпусе налічвалася 12 000 Беларусаў. Усе яны пасьля пераехалі ў Ангельшчыну. Тут іхны лік хутка павялічыўся пераездам сюды Беларусаў зь Нямеччыны, якіх тады называлі эўрапэйскімі дабраахвотнымі работнікамі.

Пры гэткай колькасьці Беларусаў патрэба свае собскае арганізацыі была пякучай, тым больш, што розныя іншыя нацыянальныя групы, апынуўшыся ў падобным становішчы як і мы, Беларусы, з посьпехам наладжвалі сваё арганізацыйнае жыцьцё.

Пад націскам беларускіх вайскавікоў на чале з праф. Жук-Грышкевічам, 16 лістапада 1946 году Польскімі Збройнымі Сіламі ў Вялікабрытаніі быў выдадзены фармальны дазвол беларускім жаўнерам належаць да беларускае арганізацыі самапомачы. Загад быў наступнага зьместу: «Дазваляю жаўнерам Польскіх Збройных Сілаў беларускае нацыянальнасьці належаць да Згуртаваньня Самапомачы Беларусаў у Вялікабрытаніі». Падпісаўся пад загадам ген. Копаньскі, шэф Галоўнага Штабу. Што гэты загад быў дадзены пад маральным ціскам з боку Беларусаў, сьветчыць мутная аб ім зацемка ў «Дзеньніку Польскім і Дзеньніку Жолнежа», у якім пад датай 20 лістапада 1946 году пісалася: «Шэф Галоўнага Штабу дазволіў жаўнерам Польскіх Збройных Сілаў належаць да Згуртаваньня «Самапомачы Беларусаў» у Вялікабрытаніі (у перакладзе: «Згуртаваньне Самапомачы Палякоў беларускага паходжаньня.) Гэтае ангельскае паясьненьне ў дужках гэта — або выдумка дзеньнікаўскіх «патрыётаў» або было яму падсунутае тым, хто даваў да друку выдадзены ген. Копаньскім загад. Беларусы аднак не скарысталі з падсунутага ім назову і ад самага пачатку выразна адрэзаліся ад Палякоў як у сваім афіцыйным назове, гэтак і ў працы.

Хутка пасьля апублікаваных загадаў паўстае Тымчасовая Ўправа Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі ў складзе праф. Жук-Грышкевіча, Віктара Сенкевіча і Ч. Кукеля.

Недахоп матарыяльных сяродкаў, расьцярушанасьць людзей, частыя зьмены адрасоў, нястача свайго прыпынку ў Лёндане — усё гэта ляжала на перашкодзе ў тварэньні арганізацыі. Апрача такіх цяжкасьцяў, былі яшчэ і іншыя, асабліва з боку шавіністых-Палякоў, якія, ня гледзячы на поўны свой крах, там, дзе маглі, шкодзілі Беларусам, якія доляй-нядоляй былі зьвязаныя зь імі яшчэ ў ваенным дачыненьні. У вадным зь першых камунікатаў Тымчасовае Ўправы ЗБВБ чытаем наступнае: «Зьвяртаемся з заклікам да ўсіх жаўнераў-Беларусаў Польскіх Збройных Сілаў ці П. К. П. Р. даваць нам знаць аб усіх перасьледаваньнях, перашкодах ці т. зв. «шыканах» вайсковых зьвярхнікаў у вадносінах да іх, калі-б такія здарыліся...» Нам вельмі добра ведама, што «шыканы» living рознага роду — высьмейваньне беларускае мовы ў гутарцы і да гэтага падобнае — здараліся. ЗБВБ ад самага пачатку стала ў вабарону жаўнера-Беларуса, ня гледзячы на шынэль, які ён насіў, — польскі ці ангельскі. Энтузіязм і воля пераломлівалі ўсе цяжкасьці. Беларус ведаў, што чужына — ня маці, але быў сьведамы, куды вядзе яго шлях. У першым нумары скромна-шэрага ратапарнага бюлетэню ЗБВБ мы чытаем словы, якія да сяньня аніяк ня страцілі свае праўды і глыбокай патрыятычнай лірыкі:

«НА ШЛЯХУ, а ня дома стаімо, мы, выгнаныя з-пад родных стрэх вайной і чужацкай навалай. Мяркуем, дзе пайсьці, куды кінуцца... бо аднэй няма, а шмат дарог перад намі. Гэта адна магла-б быць толькі дарога НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ! Нажаль, ня можам мы сьньня пайсьці ёю, бо яна нас у няволю, на Сібір, на Калыму ці яшчэ куды, а не на родныя гоні, не да сваіх блізкіх завяла-б... Мы вернемся на Беларусь, вольную, незалежную, злучаную братэрскай сувязьзю зь іншымі вольнымі народамі-суседзямі. А пакуль што стаімо на шляху... Аднак, шлях гэты мусіць быць шляхам натужанай, дружнай, падгатаваўчай працай усіх Беларусаў да лепшае будучыні, да волі, культуры і дабрабыту, і як такі мусіць злучыць усіх нас у вадну вялікую сям'ю — і тых, што засталіся на Бацькаўшчыне і нас на эміграцыі ў Вялікабрытаніі, на кантынэнце Эўропы, у заморскіх краінах. Толькі тады шлях наш будзе здаровым, творчым, жыцьцядайным, а не бездарожжам» («На Шляху», 30 лістапада 1946 г., № 1, бач. 1).

Зь вялікай мэтай перад вачыма і з энтузіязмам Беларусы ўзяліся да закладзінаў свае першае арганізацыі. Тымчасовая Ўправа праз камунікаты, лісты, пры розных нагодах заклікала Беларусаў уступаць у сваю арганізацыю. Пасыпаліся кажнаму да выпаўненьня заявы; там, дзе было менш, чым дзесяць чалавек, вызначаліся мужы даверу, дзе больш — арганізоўваліся аддзелы. Ад самага пачатку была зьвернута ўвага на патрэбу куплі собскага дому ў Лёндане, на Беларускі Выдавецкі Фонд і на патрэбу дапамогі нашым суродзічам у розных лягерах Заходняе Нямеччыны.

У параўнальна кароткім часе была праробленая вялікая падрыхтавальная праца да 1-га Агульнага Зьезду сяброў ЗБВБ у Вялікабрытаніі, які адбыўся ў Лёндане ў тымчасовым памешканьні Ўкраінцаў у днёх 18 і 19 студзеня 1947 году. Прыбыло на Зьезд каля паўтары сотні Беларусаў, пераважна былых жаўнераў.

«Зьезд пачаўся а гадз. 14.30. Заля была перапоўнена і з труднасьцю магла памясьціць усіх прысутных. Кажны навапрыбылы атрымоўваў бел-чырвона-белы сьцяжок, а за тое складаў ахвяру на беларускіх уцекачоў...» («На Шляху», № 3, б. 11). Старшынём 1-га Зьезду быў выбраны сп. К. Нор, на заступніка старшыні — сп. Ч. Кукель, на сакратара — сп. А. Надсон.

На зьезьдзе былі выслуханыя справаздачы зь дзейнасьці розных клетачак запачаткаванае арганізацыі, апрацаваны і прыняты зьездам Статут, прадыскутаваны шырокі плян працы, выбраная Галоўная Ўправа ў наступным складзе: праф. В. Жук-Грышкевіч, В. Сенкевіч, М. Буляк, М. Арцюх, Ч. Кукель, К. Нор, С. Сэрафіновіч, Ф. Бартуль, К. Акула і А. Надсон. Беларусы пасьля першага Агульнага Зьезду з большай упэўненасьцяй і лепш зарганізована павялі грамадзка-культурна-дапамаговую дзейнасьць.

Згодная праца ўсіх разам патрывала аднак ня доўга. Прыхільнікі Астроўскага і тае Беларускае Праваслаўнае Царквы, што ў васобах сваіх герархаў далучылася да Зарубежнае Расейскае Царквы, пачалі з рознымі прэтэкстамі руйнацкую працу як унутры, гэтак і вонках ЗБВБ. На 2-ім Агульным Зьезьдзе, які адбыўся ў Лёндане 2-га травеня 1948 году група Беларусаў на чале з Буляком, ня змогшы фармальна правесьці сваіх неразумных вымаганьняў, пакінула залю. Адыходам гэтае групы крыху зьменшыўся лік сяброў ЗБВБ, але ачысьцілася ўся атмасфэра арганізацыі. Закалот, які праявіўся на 2-ім Агульным Зьезьдзе, пашырыўся на іншыя асяродзьдзі Беларусаў. Пасьля, аднак, пэўнага часу, усе больш дзейныя Беларусы ўступілі ў рады ЗБВБ і яно надалей засталося найбольшай і наймацнейшай нашай арганізацыяй.

На 2-ім Агульным Зьезьдзе была выбраная Камісія для куплі Беларускага Дому ў Лёндане і было даверана Галоўнай Управе парупіцца залегалізаваць Згуртаваньне. Усё гэта было зьдзейсьнена паміж 2-ім і 3-ім Агульнымі Зьездамі ЗБВБ. ЗБВБ, будучы арганізацыяй афіцыйна прызнанай ангельскімі ўладамі, як Таварыства з абмежанай адказнасьцяй, маючы недалёка самога цэнтру ў Лёндане собскі дом з раскошным агародам у краіне Альбіёну. Пры ЗБВБ маглі паўставаць розныя прадпрыемствы, Беларускі Дом адчыніў свае дзьверы для ўсіх суродічаў-Беларусаў і ня раз меў гонар прыймаць чужынцаў, якія жадалі сустрэцца зь Беларусамі, пазнаёміцца зь іхнай бацькаўшчынай.

ЗБВБ было першай беларускай арганізацыяй на чужыне, якая кінула кліч куплі собскага дому і ня гледзячы на ніякія цяжкасьці й перашкоды, дзякуючы нязвычайнай ахвярнасьці Беларусаў, дом быў куплены. Быў ён першым нашым супольным домам, але не апошнім!



**Выканальнікі і арганізатары беларускага канцэрту, дадзенага ў Вэстмінстэрскай катэдральнай залі ў Лёндане 24 лютага 1957 году. Фото Я. Пазьняка.**

**(Заканчэньне в наступным нумары)**

---

**УВАГА! ЗША УВАГА!**

Гэтым паведамляецца, што ўсе падпішчыкі газ. «Бацькаўшчына» ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі, якія атрымліваюць газэту беспасярэдна з Адміністрацыі, павінны як **найхутчэй** урэгуляваць сваю задоўжанасьць за газэту, а так-жа і выслаць падпіску на 1957 год на ніжэй пададзены адрас нашага Прадстаўніка ў ЗША:

Mr. B. Danilovich
303 Howard St.,
New Brunswick, N. J.

---

— Спаліць іх, трутняў мала!..

Гнеў і крыўда кіпелі ў яго сэрцы, у галаве роіліся невясёлыя думкі: «Дзе шукаць праўды?! Ня знойдзеш яе... Няўжо ўсё жыцьцё давядзецца працаваць на паноў... Ядуць яны хлеб мужыка-хлебароба, а яго за чалавека ня лічаць... Куды пайсьці? Ні кала ні двара... Адно застаецца: зноў надзяваць ярмо на шыю, прасіцца ў варандатары...» Але побач зь невясёлымі думкамі ўспыхвала й надзея: «Ня ўсе-ж паны гэткія ліхія! Сустрэнецца й на маім шляху справядлівы чалавек».

— Не сябруй з багатым, бедны мужычок, — нібы адказваючы на яго думкі, задумліва сказала жонка і тут-жа схамянулася. — Цішэй, а то Ясіка пабудзім!.. — Яна пяшчотна прытуліла да сябе сына, паказваючы на яго вачыма, — вось яно — іх багацьце і шчасьце.

Схіліўшы галаву на рукі, Дамінік задумаўся, успомніў сваё дзяцінства, юнацкія гады.

..Бацька Дамініка быў родам зь Ігуменшчыны, паходзіў з дробнай шляхты, меў сваю зямлю й сядзібу. Толькі прагнявіў ён неяк магутнага князя Радзівіла, і той адабраў зямлю, прагнаў сям'ю Луцэвічаў з роднага наседжанага месца. Нямала павандравалі бацька з Дамінікам і двума іншымі сынамі па чужых хвальварках, бралі на запашку зямлю.

Мінулае асабліва яскрава прыгадвалася яму цяпер, калі глядзеў ён на жонку і малога сына, меркаваў, з чаго пачаць пошукі новага месца. Вырашыў перш пайсьці самому разьведаць на бліжэйшыя хвальваркі.

... Гарачыя вугольчыкі пакрыліся шэрым пушыстым попелам. За лесам заняўся золак. Чароды пералётных птушак сьпяшаліся на поўдзень. Шамацела пад нагамі апалае лісьце. Усё гэта цікавіла маленькага Янку. Вось ён заўважыў мурашнік, пацягнуў за сабой маці і ў пяршыню зусім выразна сказаў:

— Хата!

— Хата, сынок, хата! Бачыш, як стараюцца, каб зімою ня зьмерзнуць...

Сьлёзы наплывалі на вочы. Дзе яны з малым знойдуць прытулак?.. Ці надоўга ўдасца зьвіць гняздо, ды і ці саўеш яго да халадоў?.. Страціць лягчэй, чым знайсьці... Даведаюцца паны пра дзёрзкасьць безьзямельнага, які адважыўся сказаць праўду. Хэўра ў іх адна — адзін аднаго падтрымліваюць. Прасіся не прасіся — не дадуць работы. Што тады рабіць, куды пайсьці? Ад пакутлівых думак Бянігда змарнела, вочы праваліліся. Забаўляючы сына, яна напявала. Многа песень захавалася ў яе памяці. Толькі ў песьнях і адводзіла яна душу. Ціха вакол. Журботна шумяць дрэвы, ськідаючы апошняе лісьце. Прытуліўся да маці Янка, заплакаў. Гладзіць яна белую галоўку, сьпявае:

А пад дубам, дубам —
Там зязюля,
А пад другім дубам —
Там другая.
Сталі кукаваці,
Ясю прымаўляці:
«Ня плач, сынку,
ку-ку, ку-ку...»

І вясёлая, і сумная гэта песьня. Сама маці ледзь ня плача. «Ку-ку, ку-ку», лапоча ўсьлед за ёю Янка. Надвячоркам вярнуўся стомлены Дамінік. Яшчэ адну ноч правялі Луцэвічы ў хаце знаёмага лясьніка. А туманнай роснай раніцаю рушылі ў далёкі шлях.

Паплылі перад вачыма ўзгоркі і пералескі, замільгалі вузенькія крывыя загончыкі.

Нямала шляхоў перамералі Дамінік і Бянігда, пакуль нарэшце, спыніліся ў закінутым хвальварку Юзэфава. Гаспадар яго жыў у горадзе і многа год сюды ня прыязджаў. Паваліўся на зямлю частакол, вербалозавыя калы зьверху пусьцілі тоненькія галінкі, пакрытыя вострым лісьцем. А вось і хата. Уніз спаўзла парослая мохам страха. Вокны заткнуты ганучамі, крыж-на-крыж забітыя дошкамі. Навокал непраходнай сьцяной разрасьліся высокія кусты калючага дзядоўніку, мясістыя лопухі, пякучая крапіва. Ганак згніў, цьвіляй несла з адчыненых дзьвярэй. Спалоханыя дзённым сьвятлом, перапаўзалі па мокрых сьценах макрыцы й павукі.

Пасадзіўшы Янку на парозе, маці стала прыбіраць у хаце.

На лета запушчанага, глухога хвальварку было не пазнаць. Жоўтым пяском пасыпаны дарожкі, у шырокай сажалцы плаваюць гусі і качкі. Вакол хаты пасаджаны малады сад. Заглядаюць праз плот суседзі і дзівяцца на гарод. Што там за парадак! І гародніна як на дражджах расьце. Разьлегліся сярод лісьця зялёныя агуркі, па разорах — вялізныя круталобыя гарбузы.

Рана ўставалі, позна клаліся спаць Луцэвічы. Тым часам і ў Янкі зьявілася свая работа — ён няньчыў меншую сястру Аньцю.

### У ПОШУКАХ ЗЯМЛІ

Прайшло яшчэ некалькі год. Бледна-ружовая квецень маладых яблынь купалася ў сонечных праменьнях. Ля брамы хвальварку спынілася рэсорная каламажка. Пляснуўшы рукамі, ускліўнула Бянігда:

— Пан Ладзінскі! Гаспадар прыехаў!

Зараз-жа скрыпнула брамка, пачуўся гоман. Хтосьці тонкім голасам некалькі разоў паўтарыў:

— Проша!

Другі — хрыпаты, як застуджаны, пярэчачы, гаварыў:

— Гаспадару дарога!

Нарэшце абодва паны адначасова праціснуліся ў брамку й паказаліся на дарожцы.

— Я пазнаю цябе, родны куток! — нарасьпеў сказаў хударлявы пан Ладзінскі.

Апрануты ён быў у сьветлы часучовы касьцюм, на галаве — саламяны капялюш з чорнай істужкай. Янку запомніліся яго даўгія, як дышлы, рукі, што зьвісалі да самых каленяў.

«Чаму-ж ён такі худзеразны, гэты пан?» — ізь зьдзіўленьнем разглядаючы прыежджага, думаў Янка. Хлопчыку здавалася, што ўсе паны абавязкова павінны быць пузатыя. Ядуць яны, гуляюць ды сьпяць, як-жа можна быць худым? Ясева-ж мама заўсёды адсылае пану Ладзінскаму шынкі, паляндвіцы, сыры й масла. Калі-б яны самі елі ўсё гэта.. Янка прывітаўся і прыязным, адкрытым позіркам сачыў за Ладзінскім. Той таксама зьвярнуў на яго ўвагу, пагладзіў па галаве:

Слаўны, шляхетны хлопчык! І нічога мужычага ў ім няма, па матцы пайшоў.

— Малайчына! — падтрымаў яго спадарожнік, ідучы бокам, нібы баючыся закрануць каго-небудзь сваім жыватом, які выпіраў спад клятчатых штаноў і нанкавай камізэлькі.

На парог хаты выйшла Бянігда, якая пасьпела ўжо надзець сьвяточную вопратку, і нізка пакланілася гасьцям.

— Проша, панове, да стала! Проша. Па шклянцы чаю...

— Ніц! Тэраз ніц... Другім разам!

Ветліва раскланяўшыся, пан Ладзінскі падхапіў пад руку свайго спадарожніка і пайшоў зь ім на гарод.

**(Далей будзе)**

# Інтэрв'ю з князем Базылём Сьвятаполк-Мірскім

(Заканчэньне з 4 бачыны)

атрымоўваюць сьвежыя навіны ад «новых», якія ўвесь час прыбываюць у лягеры. Яны расказваюць усё, што чулі й бачылі — расказваюць шмат больш, чымся расказалі-б яны, будучы на «волі». Там за лішняе слова можна папасьціся, а ў лягеры баяцца ўжо няма чаго. Да гэтага, ёсьць зьняволеныя, якія езьдзяць на пропускі за «зону». Там яны сустракаюцца зь мясцовым насельніцтвам, якое і дзеліцца зь імі навінамі аб падзеях у Савецкім Саюзе, а таксама весткамі, якія яны чуюць праз радыё з-за мяжы.

**Пытаньне.** Дык людзі слухаюць перадачы з-за мяжы?

**Адказ.** Так, пры кажнай магчымай нагодзе.

**Пытаньне.** Ці Вас адразу пасьля звальненьня зь лягеру накіравалі ў Нямеччыну?

**Адказ.** Пасьля звальненьня я амаль 2 месяцы жыў пад Масквой дзе мог свабодна сустракацца з насельніцтвам.

**Пытаньне.** Што Вы можаце сказаць аб жыцьці на «волі» ў Савецкім Саюзе?

**Адказ:** Жыцьцё «вольных» таксама беспрасьветнае. Сябры партыі жывуць яшчэ адносна добра, але рэшта... Аднаго толькі хапае ў магазынах — гарэлкі. Іншыя рэчы або трэба браць з боем, або задарагія для людзей із сярэднім заробкам.

**Пытаньне:** Гэта напэўна цікавіць нашых чытачоў: чым тлумачыцца тое, што Вас выпусьцілі за межы Савецкага Саюзу?

**Адказ.** Гэта было й для мяне вялікай і нечаканай неспадзеўкай. На маю думку, амнэстыя й дазвол на выезд із Савецкага Саюзу чужым грамадзянам выясьняецца тым-жа, што й пэўныя палёгкі ў лягерах, аб якіх я гаварыў. Паколькі в маю нямецкае грамадзянства і маю тут сям'ю, мяне выпусьцілі із Савецкага Саюзу. Хрушчоў намагаецца цяпер усімі праўдамі й няпраўдамі паказаць сьвету гэтак званы «новы твар» савецкае палітыкі. Я папаў у шчасьлівую для мяне фазу гэтае палітыкі. Гэтая прапаганда дорага каштуе савецкаму ўраду, але, як відаць — аплачваецца!

**Пытаньне.** І апошняе, што-б мы хацелі ў Вас папытацца: якое ўражаньне зрабіў на Вас вольны сьвет пасьля гэтак доўгага пабыту ў Савецкім Саюзе?

**Адказ.** Што вам на гэта сказаць? Адкажу на гэта пасярэдня: я вельмі шкадую, што не магу сабраць усіх тых спадароў на Захадзе, якія жаляцца, што ім не стае птушынага малака, ды выслаць іх у Савецкі Саюз прынамся на год. І ня ў лягер — гэтага я ім ніяк не жадаю — а на «волю», з усімі правамі савецкіх грамадзян, каб яны маглі працаваць у сваёй прафэсіі. Пасьля году, я хацеў-бы сустрэць усіх гэтых спадароў, і нічога не гаворачы, паглядзець ім у вочы. Тады-б мы зразумелі адзін аднаго...

# Зь беларускага жыцьця

## ЗЬ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ

24 лютага сёлета адбыўся шосты Культурна-Асьветны Сход Беларусаў у Нью Ёрку і Джэрсі Сіты. На ім праф. Я. Станкевіч меў рэфэрат на тэму «Гісторыя Беларусі паводля п. Н. Ульянава (зьбіцьцё цьверджаньняў ягонага рэфэрату з 27. I. 1957)».

Ульянаў, служачы расейскім манархістым сваімі рэфэратамі пра розныя «сэпаратызмы», меў 27 студзеня сёлета ў расейскіх манархістых у Нью Ёрку рэфэрат пра гісторыю Беларусі, маючы наўвеце «сэпаратызм» беларускі. Ён бесаромна хвальшаваў гісторыю Беларусі, із гэтым ягоныя слухачы блізу ўсе згаджаліся. Дзеля таго вынікла патрэба пазнаёміць Беларусаў зь імкненьнямі што да іх гэтай найшавіністычнейшай часьці Расейцаў і із спосабамі, каторыя яны тарнуюць у ходаньні зь беларускім рухам. Я. Станкевіч выкрыў у сваім рэфэраце хвальшы Ульянава і паказаў, што ён толькі тым розьніўся ад цяперашняга маскоўска-камуністычнага хвальшаваньня гісторыі Беларусі, што быў за іх яшчэ горшы. Заразом Ульянаў горшы за найгоршую расейскую чорную сотню. Праўдападобна большае і за расейскіх камуністых і за чорнасоценцаў хвальшаваньне Ульянавам гісторыі Беларусі залежыла ад таго, што ён меў перад сабою някрытычную аўдыторыю расейскіх манархістых.

## ПЕРАВЫБАРНЫ СХОД БАПЦ Ў КЛІЎЛЭНДЗЕ

3-га сакавіка 1957 г. адбыўся сход парахвіянаў БАПЦ Сьвятога й Цудатворнага Абраза Жыровіцкае Божае Маці ў Клыўлэндзе. Сход адчыніў настаяцель прыходу а. Ефім ды запрапанаваў выбраць прэзыдыюм. У прэзыдыюм былі выбраныя сп. М. Ягаўдзік і С. Карніловіч. Справаздачу зь дзейнасьці прачытаў сакратар Царкоўнага Камітэту Ул. Дунец. Фінансавую справаздачу прачытаў сп. А. Каханоўскі. Пасьля дыскусіі пастанавілі ўдзяліць уступаючаму Камітэту абсалютарыюм із падзякаю.

Бальшынёю галасоў у новы Царкоўны Камітэт былі выбраныя: А. Кананчук — старшыня, М. Ягаўдзік — заступнік, Ул. Дунец — сакратар, А. Шастак — скарбнік, К. Чэрнік і А. Васілеўскі — сябры. За старасту быў выбраны сп. М. Страпко. У сябры Рэвізыйнае Камісіі ўвайшлі: сп. сп. А. Каханоўскі, М. Галоўка й В. Шчэцька. У камітэт для набыцьця Царквы былі выбраныя: Ю. Каляда, А. Стрэчынь і А. Лук'янчык. У арганізацыю «Усходня-Праваслаўная Дапамаговая Рада», якая абыймае ўсе праваслаўныя прыходы ў Клыўлэндзе, ад прыходу выбралі 3 асобы: інж. К. Калоша, І. Каляда і С. Карніловіч.

Ул. Д.

# Новыя кніжкі

## ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНА».

**Выйшла з друку і ўжо прадаецца новая кніга Выдавецтва «Бацькаўшчыны»:**




**Кніга абыймае 182 бачынаў і каштуе 2 амэрыканскія даляры або іхную раўнавартасьць у мясцовай валюце. Выпісваць і купляць безпасярэдня ў Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» або ў ейных Прадстаўніцтвах.**

**У сувязі зь цяжкім матарыяльным палажэньнем Выдавецтва, Аўтар, ідучы яму на спатканьне, усе кошты выданьня кнігі пакрыў із сваіх собскіх фінансавых сяродкаў з тым, што атрыманыя грошы з прадажы кнігі будуць Выдавецтвам перадавацца яму. У сувязі з гэтым ветліва просім усе нашыя Прадстаўніцтвы грошы за прададзены зборнік Р. Крушыны запісваць на асобнае конта і пры разьлічэньні з Выдавецтвам нас паведамляць аб колькасьці прададзеных эгзэмпляраў «Выбраных твораў» і аб вышыні сумы, атрыманай за іх.**

*




**Кніга мае прыгожую каляровую вокладку работы мастака Міхася Наўмовіча, абыймае 160 бачынаў і каштуе 2 даляры або іхную раўнавартасьць у мясцовай валюце.**

*Кутон беларускае прыроды*

# Вазёрны край

Ці бывалі вы ў нашым вазёрным краі? Ідзеш праз чысты сухі бор доўга, доўга, паступова прывыкаеш да зялёнага змроку і храбусьценьня сухіх галінак пад нагамі. Раптам уперадзе нечакана блісьне палоска вады. Ледзь не бягом сьпяшаешся да ўзьлеску, на ўскраіне якога шырока раськінулася водная роўнядзь возера. Якая прастора! Вецер ледзь рабаціць ваду, і толькі паласа прыбярэжнага чароту аддзяляе яе ад высокіх соснаў.

А часам сустрэча з возерам адбываецца інакш. Дарога ўецца сярод палёў усё вышэй і вышэй. Далёка навокал відаць адкрытыя прасторы, і ня верыцца, што дзесьці паблізу павінна быць возера. Час, як відаць, паварочваць назад. Але вось з высокага ўзгорку відаць вада. Возера ляжыць паблізу ў глыбокай упадзіне, акружанае густой рамкай цяжкапраходных зарасьнікаў. Берагі ягоныя вельмі крутыя, і хвалі з шумам плёскаюцца аб прыбярэжныя камяньні, утвараючы цэлую паласу пены. Малюнак настолькі прыгожы і нязвычайны, што мімаволі ўзьнікае думка: «Зусім як у казцы». Вунь на другім беразе відаць чалавечыя фігуры. Яны расьцягваюць на калох сетку пасьля начнога лову, а зь вёскі па вузенькай крутой сьцежцы зь вясёлым сьмехам бяжыць чарада дзяцей.

Цяжка знайсьці месцы, больш своеасаблівыя і прывабныя ў прыродных адносінах, чым «Беларускае паазер'е». Яно займае тэрыторыю прыкладна на поўнач ад лініі Вільня-Вялейка-Халопенічы-Ворша. Высокія грады і ўзгоркі, шырокія палі і рэкі, бяскрайнія лясы і балоты, нязьлічоныя вазёры і абтокі зьмяняюць тут адзін аднаго ў бясконцай разнастайнасьці.

Паўночная частка Беларусі — гэта край вазёр. Іх тут налічваецца некалькі тысяч, зь якіх бадай тысяча мае прамысловае значэньне. Асабліва шмат (80%) вазёр разьмешчана ў Віцебскай і Маладэчанскай вобласьцях. У некаторых раёнах вазёр так многа, што яны займаюць 11-12% усяе плошчы. Напрыклад, у Браслаўскім і Мядзельскім раёнах колькасьць іх ня ўступае па плошчы вазёрам Карэліі.

Параўнальна невялікія вазёры вядомы таксама ў цэнтральнай і паўдзённай частках Беларусі.

Усе беларускія вазёры адносяцца да тыпу ледавіковых. Упяршыню вазёрныя ўпадзіны ўзьніклі ў ледавіковую эпоху. Вялікі скандынаўскі ледавік, рухаючыся з поўначы на поўдзень, адкладваў на сваім шляху масу абломачнага матарыялу — пяску, валуноў, галькі, гліны, утвараючы, такім чынам, асаблівую пароду — марэну. Марэна адкладалася на паверхні зямлі нераўнамерна: то ў выглядзе высокіх град, разьмешчаных ля краю ледавіка, то бязладна раськінутымі ўзгоркамі, якія перамешваюцца глыбокімі нізінамі. У час таяньня ледавіка ўтвараліся патокі вады. Частка яе сьцякла па сьхілах, а частка затрымлівалася ў шматлікіх паніжэньнях марэннага рэльефу, даўшы пачатак сучасным вазёрам.

Найбольш буйныя вазёры ўтварыліся перад марэннымі градамі, якія сталіся нібы прыроднай запрудай для цякучай з поўначы расталай вады. Да такіх вазёр адносяцца, прыкладам, Нарачанскія. Іншыя ўпадзіны ўтварыліся ў выніку разбуральнай дзейнасьці самога ледавіка, што нібы выворваў у мяккім груньце вузкія глыбокія лагчыны, якія затым былі запоўнены вадой. Але найбольшая колькасьць вазёр належыць да ліку параўнальна невялікіх і няглыбокіх вадаёмаў.

Побач з рэкамі, лясамі, тарфянікамі вазёры — вельмі важнае багацьце Беларусі. Яны забясьпечваюць насельніцтва, якое жыве на іх берагох, пітной і прамысловай вадой, служаць, разам з рэкамі, транспартнымі шляхамі. Але самае вялікае значэньне вазёр у іх рыбных багацьцях. Розныя пароды рыб жывуць у нашых вазёрах. У некаторых раёнах для яе перапрацоўкі пабудаваны рыбнакансэрвавыя заводы. Адзін з такіх заводаў працуе на возеры Нарач — самым буйным вадаёме Беларусі, плошча якога складае 80 квадратных кілямэтраў. Аднак глыбіня возера невялікая — 10-12 мэтраў, і толькі ў паасобных месцах яна перавышае 20 мэтраў.

Нарач славіцца маляўнічымі абрысамі берагоў, пяшчанымі пляжамі, багатымі ўловамі рыбы. Далёка за межамі нашага краю вядома копчаная і кансэрваваная нарачанская рапушка (сялява). Апрача гэтага, у Нарачы водзяцца лінь, лешч, шчупак, а таксама рачны вугор. Вугор — буйная рыба з храстковым шкілетам. Часам даўжыня яго дасягае мэтра. Цэніцца яна сваім смачным мясам. Вугор трапляе да нас у возера з далёкага Саргасавага мора. Там зь ікры выводзяцца малькі. Праз тры гады яны прыходзяць у рэкі і вазёры Эўропы, дзе і вырастаюць да дарослага стану. Праз 4-5 год вугор зноў вярочаецца ў Атлянтычны акіян, каб там на вялікай глыбіні пакінуць ікру і затым загінуць. У вазёрах Беларусі вугры часьцей за ўсё паселены штучна, таму што прайсьці вялізарную адлегласьць з Саргасавага мора ім удаецца рэдка.

Браслаўскія вазёры, як і Нарач, багатыя зоапланктонам, г. зн. дробнымі арганізмамі, якія служаць харчаваньнем для рыбы. Водзяцца тут лешч, шчупак, вугор, плотка, сіг. Берагі вазёр то паніжаныя, часткова зарослыя чаротам, то высокія, пяшчаныя, з буйнымі гранітнымі валунамі. Возера Дрывяты мае, прыкладам, даволі роўныя абрысы, а Струста — вельмі разнастайныя. Тут цэлы рад маляўнічых лясістых поўабтокаў і абтокаў, зь якіх самыя значныя Турмас і Саснсвы. Вельмі буйнае возера Браслаўскае групы — Дрысьвяты. Ягоная плошча 45 квадратных кілямэтраў. На крайняй поўначы Беларусі ляжаць Асьвейскія вазёры. Яны акружаны балотамі і лясамі. Рыбалавецтва тут вельмі памыснае.

Усе названыя вазёры адносяцца да самых буйных у Беларусі, але яны ня самыя глыбокія. Найбольшыя глыбіні маюць вазёры параўнальна невялікіх разьмераў, выцягнутыя з паўночнага захаду на паўдзённы ўсход. Прыкладна 50 км на паўдзённы захад ад Полацку працягнулася возера Доўгае. Яно, як відаць, самае глыбокае ў Беларусі (45 мэтраў). Даўжыня возера каля 7 кілямэтраў, а шырыня ўсяго 250-300 мэтраў. Возера выключна маляўнічае ўлетку. Цёмная зяляніна берагавых зарасьнікаў прыгожа спалучаецца з празрыстай блакітнай вадой, і толькі прарэзьлівыя крыкі чаек парушаюць цішыню. Асабліва прыгожае возера ўначы, калі дарожка месяца цягнецца ў калідоры высокіх цёмных берагоў.

У Доўгім, апрача пералічаных вышэй парод рыб, водзіцца яшчэ і сьняток. Гэта — невялікая, у палец даўжынёй, рыбка, якая цэніцца сваімі смакавымі якасьцямі. Сьняток жыве ў самых глыбокіх вазёрах Эўропы і скопліваецца вялікімі масамі ў вазёрных ямах, адкуль і вылоўліваецца. Сьняток вельмі старадаўняя рыба, яна жыла на нашай тэрыторыі яшчэ ў трацічны пэрыяд. Апрача Доўгага, сьняток водзіцца ў возеры Саро, якое разьмешчана ў Бешанковіцкім раёне. З поўначы на поўдзень гэтае возера працягнулася на 12 кілямэтраў, а шырыня ягоная не перавышае 400 мэтраў. Затое глыбіня Саро значная — дасягае 38 мэтраў.

На поўнач ад Саро, за Заходняй Дзьвіной, знаходзіцца група Буравіцкіх вазёр, на поўдзень — група Сеньненскіх, а яшчэ далей, на паўдзённы захад, — адно з самых вялікіх і багатых рыбай вазёр — Лукомльскае.

Самае кіпучае жыцьцё на вазёрах, вядома, улетку. Амаль кажную ноч або раніцой выходзяць на лаўбу рыбацкія лодкі, каб да паўдня із спадарожным ветрам вярнуцца дадому. Часта рыбакі вяртаюцца з багатым уловам, але часам ім няма ўдачы, і тады яны пачынаюць гаварыць аб зьмяншэньні рыбы ў вазёрах, аб патрэбе павялічваць штучнае іх засяленьне. Практыкі рыбнай гаспадаркі сапраўды маюць рацыю. Выкарыстаньне вазёрных багацьцяў, вядзеньне рыбнае гаспадаркі ў Беларусі часта мае яшчэ прымітыўны характар...

**О. Якушка**

# Пры нагодзе аб сім =тым

(Заканчэньне з 6 бачыны)

Кажуць «розум — добрая рэч, толькі яго трэба мець». Прапаганда, таксама, вельмі важны дзейнік у нашым жыцьці, але яе трэба ўмець рабіць. А ў нас гэта часьценька кульгае.

Вось казачка для дзяцей не старэйшых за 40 год:

У якойсь сталіцы якойсь дзяржавы, напрыклад у Лёндане, адбываецца міжнародны кангрэс, напрыклад, журналістых з-за зялезнай заслоны. Тут ужо ня казка, але праўда — гэтым кангрэсам зацікаўленыя інтэлектуалістыя вольнага сьвету.

Ад усіх нацыяў на гэты кангрэс прыехалі прафэсары, дактары, магістры і т. п. чыны, у нас такіх пад рукой здарылася няшмат, дык папоўнілі кандыдаты на гэтых дастойнікаў. Хлопцы, як дубы, кажнаму год пад 30, кажны патрыёт аж пахне.

У перапынках пры буфэце — знаёмствы, гаворкі, інтэрвью, інфармацыі. Нашай дэлегацыяй адмыслова зацікавіліся рэпартэры, а перадусім рэпартэркі мясцовай прэсы. Ня дзіва — хлопцы як дубы, — пра жалудкі ніхто ня думаў — некалькімі мовамі сьпікаюць быццам-бы гарэхі лузалі, і за каўнер ня выліваюць. Толькі, што п'юць і бязупынна ўсе гавораць усё толькі аб 2000 нашых інтэлектуалістых, якіх зьнішчылі бальшавікі. Раз-два — добра, але два дні ўсё адно і тое — нястраўна, тымбольш для ангельскіх жыватоў.

На трэйці дзень па дарозе на канфэрэнцыю, я кажу нашым: «Браткі, для нас 2000 інтэлектуалістых — балючая рана, але для Ангельцаў і іншых Шкотаў — драбніца. Гаварыце ім, што як Беларусь будзе незалежнай, мы будзем вазіць у Англію лён, пяньку, маштавы лес, падсьвінкаў на бэйканы і іншае, а ад іх будзем купляць манчэстэрскія матарыялы, шэфільдзкія машыны і т. п. Гэта іх больш цікавіць... А ў міжчасе ўшчыпніце адну-другую дзяўчынку. Яны, праўда, ня першай маладосьці, але чаго ня робіцца з высокіх пачуцьцяў...»

Шчасьце, што мяне на блін не расплянскалі з абурэньня. А магло было здарыцца: хлапцы, як дубы...

Не памаглі мае парады. На трэйці дзень — тое самае: рукі за камізэлькай, міны мучанікаў і 2000... Вынік: на трэйці дзень усе нашы заходнія рэпартэркі перакачавалі да іншых дэлегацыяў. Там, праўда, дзядзькі былі з лысінамі, але паміж сур'ёзнымі гаворкамі, расказвалі вясёлыя анэкдоты і падскубвалі рэпартэрак. Пасьля-ж кангрэсу аб нас нічога ня пісалі, быццам-бы нашу дэлегацыю карова языком зьлізала.

А ці ў нас тады ня было прафэсараў, дактароў, магістраў? Былі, былі, але яны толькі стаялі на Акце і думалі, што гэтага хопіць...

На Бога, Грамадзяне, не камянуйце мяне з патрыятычнага абурэньня! — Я яшчэ ня скончыў...

*

Ёсьць у нас камэрцыйная газэтка. Якжа, ёсьць! Палову яе займаюць абвесткі фірмаў. Там ёсьць „Mazar Trading“ „W. H. Lake-Hardware“, „Coniaga“, Fanique Trading Co“, „Penmans — лёгкае бельле“ і шмат іншых. А сярод гэтага ўсяго рэдактар у мастацкім беспарадку ўтыкае свае «патрыятычныя» зацемкі. «Бельле» чыстае, але зацемкі брудныя, сьлізкія, не гарманізуюцца з абвесткамі. Паміж споднікаў, нагавічак, халадзільнікаў, кухоннага судзьдзя і іншага прычындальля стаіць рэдактар, стаіць «на лініі» непахісны, як Катон і ліець брудныя памыі на ўсіх, хто нешта робіць. Ён усё можа зганіць, апаганіць, ачарніць, абліць гразьзю, бо сам нічога ня робіць, ня зробіць. Але ён стаіць на лініі, ён «патрыёт»...

Патрыёт!..

пс

## ПАПРАЎКА

**У папярэдніх н-рох «Б-ны» ў вабвестцы Беларускай Кальпартажнай Агенцыі заместа «6-ты том» збору твораў К. Чорнага было памылкова пададзена «6 томаў». Рэдакцыя перапрашае Агенцыю за гэты прыкры недагляд.**




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**
**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**
**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**